УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 13. Вершы. Паэмы. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : Зміцер Колас, 2020.— 480 с., іл.

ISBN 978-985-23-0121-3.

У трынаццаты том збору твораў Сяргея Давідовіча, увайшлі вершы, паэмы і гумарэскі, напісаныя ў 2020 годзе.
Творы тэматычна разнапланавыя, псіхалагічна глыбокія і шчырыя.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-23-0121-3**

## Пакуль

Лічыць сябе паэтам
Ніхто не даў правы.
Я думаю аб гэтым,
Пакуль яшчэ жывы.

Паэт я саматканы,
Баліць гэта, гняце.
Мой меч пакуль драўляны
Й пытальнік на шчыце.

І доўжыцца, муштруе
Маё гэта «пакуль».
Пішу, пішу, пішу я,
Каб знікнуў з твораў нуль.

Тады я буду годны,
Калі адчую сам,
Што верш мой неабходны
Штодзённа чытачам.

Ну а пакуль бяссонна,
Напружана пішу.
І ў кожны твор надзённы
Ўкладаю я душу.

## Асветленасць песні застольнай

Душа не застылае штосьці,
Не багна, дзе сонечнасць гіне.
Яна — то вясна маладосці,
То востраў пякельны — пустыня.

То цемры заку́так страшэнны,
Дзе мары знікаюць агульна,
То ў квецені сад белапенны,
Дзе сэрцу прыемна і ўтульна.

Душа і сусвету бязмежнасць,
Ў ёй марам і цесна, і вольна.
Ў ёй гімна ўрачыстага вечнасць
Й асветленасць песні застольнай.

Яна, хоць гарыць, не згарае,
А ладзіць з Аідам сустрэчу.
Душа, кажуць, не памірае,
Навошта ж яе я нявечу?

## Апошняе слова

Слова — гэта й нападак, яно й абарона,
Ў слове бруд і крынічнік жывы.
У паэтаў гучыць гэта слова натхнёна,
Ёсць апошняе слова, паводле закона —
На яго маю ўсе я правы.

Час жыцця выплывае, нібыта з туману,
З даўніны й не зусім даўніны.
Не, апраўдвацца я перад часам не стану
І тым больш з-за заслоны маны.

Пачакайце выносіць прысуд мне паспешна,
Я і сам шмат адкрыю чаго.
Неаднолькавы я, я, на жаль, не бязгрэшны,
Ёсць і цені ад лёсу майго.

Але й сонечнасць ёсць і яе значна болей,
Праўда, тае яна пакрысе,
Бо і дробязных крыўд не забудуць ніколі,
Справы ж добрыя помняць не ўсе.

Я пішу, як даў Бог, і наколькі, я здольны,
Для душы неспакойнай, для вас.
Я ў паэзіі вольны і я паднявольны —
Узаемная повязь між нас.

Па жыцці я пранёс светлых мараў пачуцці,
Клічу ў сведкі сваю маладосць.
Не засведчыць ніхто, што я здрадзіў камусьці,
А «засведчыць» — ён здраднік і ёсць.

Час жыцця, ён у кожным узросце бясцэнны,
Быццам крылаў нябачных узмах.
Час мой першы, складаны мой, пасляваенны,
Ён і сёння ўва мне будзіць жах.

Мы ў зямлянцы жылі, дзе ні сонца, ні неба,
Ўсё спаліла вайна — ледзь не нас.
Я, галодны, не ўкраў ні скарыначкі хлеба
Ні ў каго, у той жудасны час.

Сёння хлеб ёсць — і шчодра адрэзана луста,
Ёсць патрэбнасць — прашу да стала.
Ўсё мазолем нажыў — «ўсё», не дужа і густа,
Але Богу й за гэта хвала.

Калі ласка, заходзьце, убачыце самі
Кут мой родны, і я увесь тут…
Што хацеў, я сказаў, цяпер слова за вамі,
Я гатовы пачуць ваш прысуд.

## Пад яблынькай

Ў цяньку пад яблынькаю пасядзець прыемна,
Якую колісь пасадзіў дубцом.
Тут вольна дыхаецца, думаецца кемна
Ці кемліва, натхніўшыся вінцом.

Пяшчоціцца ля ног ласкава траўка,
Вунь пчолкі рупяцца з усіх бакоў.
Эх, каб яшчэ да пенсіі дабаўка,
Ды да жыцця накінуў Бог гадкоў.

Скок-скок, ля самых ног кульдычыць жабка
І на мяне увагі — поўны нуль.
Тут — цэлы свет, бацькоўская тут хатка,
Мы ўсе, хто быў, хто ёсць — усе адсюль.

Душой прыемна да жыцця туліцца —
Сядзелі тут мае бацькі ў цяні.
І тут, на гэтай, на святой зямліцы,
Дзяды ў жыццё пускалі карані.

Тут столькі адгуло, на гэтым месцы,
Тут так жахліва душыць цішыня,
Эх, каб маглі вы ля мяне тут сесці,
Дзяды, бацькі, браты — уся радня.

Мы б абняліся кроўна з усёй моцы,
Гулі б мы, як ніколі і ніхто…
Ці вытрымала б сэрца тых эмоцый?
І нават, калі не — было б за што.

Заўсёды ёсць імгненні, за якія
І не шкада жыцця, ўсяго, што ёсць.
Пранёс бы у душы і праз вякі я
Сустрэчу гэту, каб не быў тут госць…

Расчуліўся я і не без прычыны,
Заглыбіўся душой у даўніну.
Пайду у хатку і за ўсе ўспаміны,
За кожнага па келіху кульну.

## Як і мы

Іду па вёсцы, часам зруйнаванай,
Ледзь пазнаю мне родную зямлю.
Я сам не ўсім прыемны і жаданы,
Трывайце, я вам хутка саступлю,

Як саступілі Юрка, Тодар, Федзя,
Дзям'ян, Настася, Зося — у свой час.
Дзе сёння ўсе яны? Ў мінулым недзе,
Агонь жыцця іх тут гарэў — і згас.

Мне колісь тут пашчасціла жыць з імі,
І тое «колісь» сёння, быццам міг.
Яны мільгнулі лёсамі сваімі,
А хто тут перад імі жыў? Й да іх?

Растрэсліся яны ў жыцці-галопе,
Скандэнсаваліся ў бяскроўнае «жылі».
Вось так і мы ў гадоў калейдаскопе
З адзінак ператворымся ў нулі.

Мы ператворымся ў былога цені,
Ў нішто, бо памяць — кволы абярэг.
Адноўленыя прыйдуць пакаленні —
Ці ж зацікавіць леташні іх снег?

А могілкі? Яны, як кот-бяздомнік,
Дагляд за імі ёсць — «жывуць» яны.
Ці хто хоць бачыў стогадовы помнік?
Ці недзе крыж ёсць гэткай даўніны?

Пераканацца каб, сюды прыедзьце
Праз пяцьдзесят гадоў, альбо праз сто.
Нас час з жыцця здзімае, нібы смецце,
Як парушынку з горнага плато.

За векам век гадоў вірлівых зграя
Тасуе, як калоду картаў нас,
Лістае, абязлічвае, сцірае,
За векам век — і не апошні раз.

Нас у палон бяруць забавы, справы,
Квітненне вёснаў, халады зімы.
О, колькі у зямлі людзей цікавых,
Вясёлых, мудрых, розных — як і мы.

## Вялікая адказнасць

— Ў нашай вёсцы вечарынка,
Больш таго, у нашай хаце.
Ты ж не асаромся, сынка,
Танчы годна — кажа маці.

Я, й без слоў маёй матулі,
Разумеў падзеі важнасць.
Вечарынка — вам не гулі,
А вялікая адказнасць.

Вечарынка — час спакусаў,
Смеху, выкрунтасаў, жартаў,
Незласлівых кпін-падкусаў,
Ухажорыстасці шпаркай.

Калі выпіў — не раскіснуць,
Хай Бог крые, не упіцца.
Ну а як жа не прыціснуць
Прыгажуню-маладзіцу?

Рот свой — носьбіт перагару,
Не разяўліваць расхлябна.
А як дасць гармонік жару,
Танчыць без крыўлянняў, зграбна.

«Будзьце, дзеткі, ўсе, як людзі»,—
Раяць так усе матулі
А ці гэтак яно будзе?
Дзе вы бачылі і чулі!

Не ўтрымаліся і вы бы,
Нават у любым узросце.

Вечарынка — гэта выбух
Спрацаванай маладосці.

Тыдзень — праца, праца, праца,
Ўсіх камечыць, як кудзелю.
Эх, хутчэй бы дачакацца
Вечарыначку ў нядзелю.

Знік ён, перастаў няволіць
Тыдзень працы апастылы.
І цяпер шчыруе моладзь,
І адкуль бяруцца сілы!

Выбачайце нам, матулі,
Сёння ў танцы вольнасць з намі.
Мы сябе людзьмі адчулі,
А не толькі працаднямі.

Заўтра зранку нашы лёсы
У хамут палезуць зноўку —
Хто за вілы, хто за косы,
Хто за плуг, хто за рыдлёўку.

Гэтак — да нядзелі новай —
Ў баразне, ў гнаі, ў пракосе.
Цяжка моладзі вясковай
І незáйздрасна жылося.

Эх, лістай жыццё, штодзённік,
Не шкадуй для шчасця часу.
Рэзні полечку, гармонік!
Біце ажно ў столь, абцасы!

*1957—2020 гг.*

## Цэлы свет за спіной

Ноч спусцілася на зямлю,
Спіць наўколле пад зоркай Венераю.
Ноч глыбокая — я не сплю,
Плечы згорбіўшы над папераю.

Месяц сеў на маім плячы,
Сваім дзіўным святлом пяшчоціцца.
Штоб яшчэ напісаць? Аб чым?
Свет вялікі, а што ў ім робіцца?

Недзе сушыць, а дзесь ліе,
Недзе дзень а ў кагосьці раніца.
Многім грошай на хлеб не стае,
Хтосьці недзе ва ўсю рэстараніцца.

Нараджаюцца, жэняцца, мруць,
Чалавецтва грашыць і моліцца.
Адны сеяць, другія жнуць
І на ніве чужой раздоляцца.

Хтосьці хваліць свой лёс, хто кляне,
Хто святкуе, хто горам уздыблены.
Свету цэламу не да мяне,
Не да думак маіх заглыбленых.

Мне, ў адрозненні ад падзей,
Ад таго, што у свеце робіцца,
Сэрца дужа баліць за людзей
І не спіцца, й адказна творыцца.

І не сплю, і пішу для таго,
Каб знікалі жыцця заняпадзіны.
Сілай вершаў і духу свайго
Спачуваю, на колькі мне дадзена…

Я і гэтая ноч са мной,
І на небе злаціначкі-ягады́.
Цэлы свет за маёй спіной —
І няма адступаць куды.

## Не выпаў з часу

З давён-даўна, з далёкага далёка,
Адкуль выток жыцця незамутнёны,
За намі сочыць нашых продкаў вока
І душаў іх іканастас іконны.

Я адчуваю часу пульс выразна,
Ці супадае з ім мой пульс уласны?
Адказна б’ецца ён ці безадказна?
На жаль, мне не адкажа час сучасны.

Пытанні без адказу, як пакуты
Няспынныя, ад іх нідзе не дзецца,
Яны — спякоты жар і холад люты,
І гэта востра адчувае сэрца.

Шкада, што чалавечы век кароткі,
Ад нас час уцякае без аглядкі.
І ўсё ж вас адчуваю сэрцам, продкі,
І чую вас, далёкія нашчадкі.

А калі так, мой лёс не выпаў з часу
І не згубіўся ў мітусні жыццёвай.
Агню я ў сэрцы аб былым не згашу
І буду пець аб будучыні новай.

## Веча

Калісьці звон склікаў людзей на веча,
Лічыліся карыснымі скліканні.
Агульны, думны розум чалавечы
Мог вырашаць складаныя пытанні.

Ёсць ісціна: адзін розум — цудоўна,
А калі два — цудоўна удвая.
І продкі падыходзілі шаноўна
Да кожнага на думным веча «я».

У нас бытуе практыка другая,
Мы адыйшлі ад думных сходак тых.
І сёння, калі хто каго й склікае,
Ён вырашае ўсё адзін за ўсіх.

# Не лішні

*...скорбь не устает*
*К былому возвращаться бесконечно.*
Д. Г. Байрон

Вакол — вачам аж цесна — людзі, людзі,
Але ніхто ў штодзённай мітусні,
Як колісь, мне не кінецца на грудзі —
Заходзь у хату, падсілкуйся, адпачні.

Без гэтага я ў цэлым свеце лішні
І не імкнецца ў свет душа мая.
І так туга балюча сэрца сцісне,
Што свет здаецца лішнім, не толькі я.

Вяртаюся душой у час той самы,
Дзе вёсачка жывая, родны кут.
І я іду на могілкі да мамы,
Да ўсіх сваіх — і я не лішні тут.

# Купалаў дуб

Купалаў дуб… Я сеў у ім хвілінна,
Сюды я бег з Карпілаўкі не раз.
Тут некалі сядзеў Купала слынны,
Ў Акопы наязджаючы ў той час.

Купалаў талент шчыра ўсіх адорваў,
Людзей, зямлю, дзе творча колісь рос.
Я ўжо тады паэзіяй прыхворваў,
Не ведаючы, што яна — мой лёс.

Ці быў бы лёс  мой творчасцю удалы?
Каму за гэта вечная хвала?
Не выключаю, што душа Купалы
Мяне тады ў Акопы прывяла.

# Міннае поле

І зноў, і зноў, і зноў
Напамінаць гатовы я
Пра жахі нашых сноў,
І пра дачок, сыноў
Ахвярнага Чарнобля.

Пра тых дзяцей, якіх
Зашмат на смерць памножаных,
Яшчэ пра дзетак іх,
Ніколі ненароджаных.

Скубе нас адусюль
Жыццё наша руціннае,
Ды не прайшлі пакуль
Сваё мы поле міннае.

Не мала ёсць прычын
Нам не любіць абрыдлае,
А лёс нам новых «мін»
Падкідвае, падкідвае.

Ці ж мала нас гады
Ламалі і хваробілі.
Мы помнім час бяды
І ўсе нашы Чарноблі.

# Магчымасць

На далёкай вярсціне, на самай далёкай,
Дзе сіроцтвам атулены слуп верставы,
Прыпыніся, пастой, пакрычы, пагалёкай.
Калі рэха адкажа, ты пакуль што жывы.

Там, за гэтай вярстой, далягляд невядомы,
Ён, хутчэй, блізкагляд, нейкі крок да яго.
Блаславёны бязвыйсцем, стаю нерухомы
На мяжы безназоўнай прыпынку свайго.

Эх, звініць цішыня, як камар той над вухам,
І не бачна, на чым затрымаецца зрок.
Ёсць такая магчымасць, сабраўшыся з духам,
Не затрымліваць часу, зрабіць гэты крок.

## Рамонкі, валошкі, званочкі

Было такое — і не ў сне,
І сёння ёсць, браточкі —
Бягуць рамонкі да мяне,
Валошкі і званочкі.

Ледзь выйду ў поле ці на луг,
Яны мяне абкружаць,
Як быццам я іх лепшы друг,
Які ва ўсім услужыць.

Я — услужу, я ахіну
Любоўю вас ахоўнай.
Я рваць не стану ні адну
З вас, красачак чароўных.

Ці ж для таго вы тут раслі
Ў спякоту, ў навальніцы,
Каб адарваць вас ад зямлі,
Дзе даў Бог нарадзіцца?

# Адказ адзін

Мяняць не пасляваю свой убор я
На дню не раз — што тут дадаць яшчэ?
Як з ланцуга сарвалася надвор'е —
То мочыць, то марозіць, то пячэ.

То раптам хмара надзімае пуза,
То сонца, як на голым целе жар,
То гразь і — на шпагаце пасля юза,
То, быццам у пустыні, пыл у твар.

Адказ адзін на нашы ўсе пытанні,
Таму нас прыстудзіла й прыпякло:
Глабальнае прыйшло пахаладанне
І пацяпленне ў гэты час прыйшло.

Вось і валтузяцца яны за грудзі,
Адзін не саступае і другі.
Таму ўвесь час такім надвор'е будзе,
Па графіку — дзень добры, дзень благі.

## Было яно! Было!

Я шчасця не разгледзеў, а яно было,
Няхай сабе, як кропля ў лёсе-моры,
Няхай сабе, як мар-хімер крыло,
Як ціхай ноты гук у гучным хоры.

Было яно — і не бяскрылы птах,
І не санлівасць, а душы гарэнне.
Было яно! Было, не кропля — гмах!
Жыццё было і ўсе яго імгненні.

Як гэта добра, што апошні крок
Я не зрабіў у «лепшы» час цнатлівы.
Я азірнуўся й сэрца майго зрок
Ў былым убачыў —
Вунь ён, час шчаслівы!

## Крылы калыханкі

Каб гэта быў мой верш апошні самы,
Пра што б хацеў я напісаць найперш?
Я б напісаў пра калыханку мамы,
Ёй сёння абавязаны мой верш.

Ў жыцці шмат розных песень ёсць, вядома,
Святочных і жалобных — не злічыць.
Але ў душы свядома й падсвядома,
Да скону калыханка ўсё ж гучыць.

А старасць не такая ўжо і драма,
Калі маленства ажывае ў сне,
Калі мяне у сне люляе мама
І крылы калыханкі дорыць мне.

Мы сэрцам калыханку мамы чулі
І я калісьці гэта шчасце меў.
Паклон вам, незабыўныя матулі,
За той далёкі і галоўны спеў.

## Рызыкну!

Думка злыднем-агнём пячэ,
Як сябе ад яе пазбавіць?
Што б і як напісаць яшчэ?
Што б уславіць альбо зняславіць?

Што б дадаць да таго, што ёсць,
Каб апатыі зніклі шоры,
Каб выразна і значна больш
Зразумелым прадстаць у творах?

Эх, душа! Так і быць, рызыкну!
Вас усіх, хто мяне не чытае,
Так далёка пашлю й мацюгну!..
Можа, хтосьці хоць том пагартае.

## Пераканаўся

*Но люблю мою бедную землю*
*Оттого, что иной не видал*
Осип Мандельштам

Зямель я бачыў шмат, іх не злічыць,
А родны дом стаяў перад вачыма.
І з-за мяжы мне ён слязой блішчыць
І ў гэтай кроплі ўся мая Радзіма.

Чым больш краін я бачыў, тым мацней
Любіў сваю зямлю і край мой мілы,
Дзе роднасцю пяшчоціць ад людзей,
Дзе нарадзіўся і адчуў я крылы.

Зямель я бачыў шмат, больш не жадаю
Даўно пераканаўся сэрцам я.
Што за ўвесь свет мне даражэй мой краю
І хатка нізкастольная мая.

## Жах!

Які непрадказальны свет наш Боскі —
Народзіны, святочнасць, лёсаў здзек.
За дваццаць год пасыпаліся з вёскі
У іншы свет аж дзевяць чалавек.

У кожнай смерці ёсць свае прычыны,
Ды кожная аднолькава пячэ.
З тых дзевяці — старыя дзве жанчыны,
А вось астатнім, жыць бы й жыць яшчэ.

А вёсачка — людзей, як кот наплакаў,
І тых пад корань высякае штось.
Паўжменькі хатак, трошкі болей дачаў —
Такая арыфметыка ў нас, вось.

Тут памятую людныя гады я.
А сёння што? Бязлюддзе п'ём да дна?
Жанчыны ёсць у вёсцы маладыя
І хоць бы з іх цяжарная адна.

У нас памерла дзевяць. А наўкола?
У іншых вёсках, сёлах, гарадах?
Сучаснасці і будучыні кола
Сціскаецца — і вельмі хутка. Жах!

## Не заўважаем, дзіўныя

Як шмат недасказа́нага,
Як шмат недапіса́нага,
Шмат мараў неажыўленых памёрла.
Як шмат недакаханага,
Заўчасна пахаванага,
Шмат песням наступіла смерць на горла.

Сколь шчасце чалавечага,
А смеху сколь малечага
На могілках знайшло заспакаенне.
А сколь таленавітага,
Па-свойму знакамітага
Падсечанага горам пад карэнне.

А мы, жывыя, вадзімся,
А мы пад сонцам скардзімся
На дробязі жыццёвых недабораў.
Не заўважаем, дзіўныя,
Якія мы шчаслівыя,
Мы дыхаем, кахаем, марым, творым.

## Эх, плынь...

Эх, плынь жыцця — віры, каменне, мелі,
То сонечнасць, то бачнасць на нулі…
Няма людзей, якія б разумелі,
Няма вушэй, якія б чуць маглі.

І калі раптам бура, навальніца,
Усёю моцай рынецца з нябёс,
Няма тых душаў, на каго маліцца,
Хто б захацеў зрэагаваць на «sos».

Што б ні было — падзей, праблем аблога,
Нязменна, кожны дзень, сам ля руля,
Сам сабе лоцман, сам сабе падмога —
Ўсё плынь і плынь, і раптам: стоп — зямля.

## Ай ды мы!

А стагоддзі пройдуць хутка,
Год трохтысячны міне.
І не застанецца й чутка
Ні пра вас, ні пра мяне.

Ну і хрэн на гэта сала!
Быць альбо не быць бядзе —
Дзе ўжо наша не прапала
Й пасля нас не прападзе.

Дык не надзімайце шчокі,
Гэй, хто ёсць, гайда да нас,
Вып’ем не за той далёкі,
А за наш, нягоршы час.

Век у памяці кароткі,
Але мы кульнём келі́х,
Памянём аджыўшых продкаў
І уславім працу іх.

Й намі зроблена не мала,
Й мы не марнавалі час.
Дзе ўжо наша не прапала!
Так! Наступны тост за нас!

П’ём да дна, вагацца годзе,
Ці ж баяцца нам зімы!
Тупнем так, каб праз стагоддзі
Напісалі: — Ай ды мы!

## Тры тысячы сірот

Я непазбежна знікну, згіну
У нейкі дзень, у нейкі год.
Што я пасля сябе пакіну?
Больш за тры тысячы сірот.

І як жа сёння шчы́міць сэрца
Безперспектыўны далягляд.
Маім сіротам давядзецца
Бадзяцца між людзей і дат.

Становуча лёс мы рэдка вершым,
А незавершана — часцей.
Пакутуюць сіроты-вершы
Горш нават за сірот дзяцей.

## Няспынна калаўроціцца

Здаецца, ўчора па задворках
Туляліся да раніцы.
А сёння ўжо крычаць ім «Горка!»
Яму й яго абараніцы.

Як неўспадзеўкі дочкі ў дзеўкі,
А хлапчукі дарosляцца.
Як кажуць, адбылі дасеўкі,
А ўжо дажынкі просяцца.

Ледзь паспяваем нарадзіцца,
А зімка ў вочы коціцца.
Лёс  чалавечы і зямліцы
Няспынна калаўроціцца.

## Для вас, панове

Судзіце строга, не судзіце строга,
Ў пераканаННЯХ мы — я тут, вы там.
І я не той, усё не той, якога
Хацелася бы чуць і бачыць вам.

Не ўсе мы маем над сабою німбы,
Між не анёлаў, не святы і я.
Хоць часам, за адным сталом сядзім мы,
А лыжка ўсё ж у кожнага свая.

Я — гэта я, прабачце, тут я смелы.
І не шукайце ў тым маёй віны,
Што любіце вы колер чорна-белы,
А я люблю адценні і таны.

Мы у жыцці не на адной палове
І кожны праз жыццё свой крыж нясе.
Зварот мой да каго? Да вас, панове,
Карціць каму, каб быў я, як усе.

## Дзіўны час

Усё, усё, усё міне
І час абвесціць — досыць!
Палохае не ўзрост мяне,
А ўсё, што ён прыносіць.

А старасць наша — дзіўны час,
Час якасцяў каштоўных,
Каб толькі не штурхаў ад нас
У вечнасць родных, кроўных.

Каб сесці ўсе гуртком маглі,
Старэнькія «грыбочкі»,
І гаману распачалі
Душэўна, вочы ў вочы.

Каб за ўспамінам успамін
Гучаў і грэў, і цешыў,
Каб не сядзець, як я адзін,
Цяпер — апошні, меншы.

Ёсць, сэрцу блізкія майму
І родным, словы, дзеі.
Каму іх выказаць? Каму?
Мяне хто́ зразумее?

## Чаму «было»?

Заўсёды ўспамінамі рады
Вяртацца да роднай зямлі,
Дзе белых аблокаў грамады,
Як айсбергі ў небе плылі.

Дзе, хлебам цяжарная глеба,
Народзіць для ўсіх каравай.
А ў нізе, напіўшыся неба,
Валошкі ліюцца праз край.

Дзе светла было, як у Храме…
Чаму ўсё «было» ды «было»?
І сёння сябруе з палямі,
З лясамі, з лугамі святло.

І сёння пік неба высокі,
Намольвае свой благавест.
І сёння высокім аблокам
Зайздросціў бы сам Эверэст.

Не страціла ўсё-ткі прырода
Ласкавасць — адорваць сабой.
Тут сэрцу бліжэй год ад года
І «сёння», й былога прыбой.

## Калі?

У гурбах сад увяз па грудзі,
Ў такім, як снег, глыбокім сне.
І дрэвы, як жывыя людзі,
Пяшчотна мараць аб вясне.

Хоць яблынькам і цёпла ў снезе,
Але спявае вецер ім
Пра тое, што зямля ёсць недзе,
Без маразоў, снягоў і зім.

Квітней, спялі плады там смела,
Хоць круглы год на той зямлі.
І яблынькам не зразумела,
Калі ж адпачываць? Калі?

## Вяселлі

Пунцуе закіплая кроў
У гронках паспелых рабінаў.
А межы ляглі між палёў,
Як шво між стракатай тканіны.

Іржонішча пах і травы
І хлеба духмянец мядовы —
Свае абвяшчае правы
Час восеньскі, час вераснёвы.

У шчодрых далонях зямлі —
Жыццё — без ніякай дылемы,
Усё, чым жывём і жылі,
І кожнае зерне, і ўсе мы.

Падзяка ляціць наўздагон
Усім, хто прыбрацца паспелі.
Ой, хутка закрыюць сезон
Вяселлі, вяселлі, вяселлі.

## Малацьба

Да тарпы, са снапоў укладзенай,
Умалоту чакаўшага жыта,
Падкіроўваў камбайн-грамадзіна
Сваёй сківіцай прагавітай.

Нам жа не да ўраджаю заможнага,
Мы ўпрагаліся ў працу адчайна.
Абавязак быў свой у кожнага,
На тарпе, ля тарпы, ля камбайна.

Хтось адзін на тарпу лез з віламі,
Каб узрушваць снапы з іх пасцелі.
І яны, нібы птахі бяскрылыя,
Ўніз адзін за другім ляцелі.

Тут жанчыны, ад спёкі чырвоныя,
Перавяслы здзіралі старанна
І давалі снапы разпрыгонныя
Двум калгаснікам ля барабана.

І снапы каласамі спелымі
Ў барабан падаваліся спрытна.
Кожны рупіўся, каб паспелі мы
Да цямна разабрацца з жытам.

А ў той час былі голымі, босымі
І калгасы, не толькі людзі.
І мы жыта касілі косамі
І тарпілі снапамі калоснымі,
Бо калі той камбайн прыблудзе?

І калгасы ледзь-ледзь абжываліся,
Быў камбайн аж на ўсе брыгады.
Вось чаму так усе завіхаліся,
Дзіўнай тэхніцы былі рады.

Мы, узрушана, з мокрымі спінамі,
Шумна, з жартамі працавалі.
І ад пылу, асця з мякінаю
Дзіўна-прывідна выглядалі.

Сноп апошні… І кожны ўзмылены,
Едкім потам наскрозь прамочаны,
Быў настолькі за дзень знясілены,
Як скамечаны сноп умалючаны.

Было цяжка, але і весела.
Малацьба — таго часу падзея,
Безнадзейнасць калгасную крэсліла,
Пераносіла ў свет надзеі.

## Не дзівіцеся

Не дзівіцеся, што ў маіх творах
Вельмі часта будзе слова «мары».
Мары лечаць нават самых хворых,
Над нядоляй разганяюць хмары.

Песня менш цікавіць без прыпева,
Людзі менш цікавыя без мараў,
Мары для людзей, як сок для дрэва,
Нібы крылы сонца для абшараў.

Мары — наш галоўны скарб бясцэнны,
Усіх нас, не адзінак прывілеі.
Мары пераносяць нас імгненна
З нашай рэчаіснасці ў надзеі.

Я і сам без мараў быў бы кволы,
А, магчыма, ў творчасці — бясплодны.
Гэты свет глухі, халодны, хворы,
Мары робяць для жыцця прыгодным.

## Свой авёс

Я не раз у свет выходзіў з хаты,
Ў свет палацаў і крыклівых мод.
Я — ад плуга, ад каня — араты,
Я — каго наскрозь адзначыў пот.

Мне тады здавалася, што недзе,
Новы, лепшы, свой сустрэну лёс.
Кажуць жа, і конь шыбчэй паедзе,
Калі, замест сечкі, даць авёс.

Мне бацькі: — Нідзе, сынок, не баўся,
Не цурайся родных берагоў.
Ў свет выходзіў я і зноў вяртаўся,
Зноў вяртаўся і выходзіў зноў.

Нёс мяне «ад сечкі» лёсу вецер,
І, магчыма б, аж да сёння нёс,
Каб не зразумеў у тлустым свеце —
Трэба сеяць свой і жаць «авёс».

## Птушка аднакрылая

Пара мая загульная-разгульная,
Ты знікла, назаўсёды развіталася,
А вёсачка утульная-прытульная,
Заўжды мяне чакала-прычакалася.

Ах, як жа шмат тут зменена-разменена,
Матуля вёска, мілая-пахілая.
Ацэнена ты мной, пераацэнена,
Гаротная, як птушка аднакрылая.

О вёсачка мая, мой кут намолены,
Табе сваім жыццём я абавязаны.
Адноўлены твой лёс і абяскроўлены —
І мой такі, бо ён з табою звязаны.

## Прамень... Агеньчык...

Што трэба ў лёсе? Прамень надзеі,
Агеньчык шчасця — і з імі нас
Не напужаюць гадоў завеі
І не адверне ад мэты час.

І не закрыюць сінь неба хмары,
Душы натхненне не спыне ўзлёт.
І будуць рэзаць крыла́мі мары
Няўдач заслону і перашкод.

Прамень… агеньчык… Каб не сурочыць,
Прайшоў я з імі жыццё, лічы.
О як няпроста у цемры ночы
Не даць ім згаснуць, іх зберагчы.

## Майская навальніца

Разбухлай першай навальніцай
Напругся недаспелы май —
Грымоты, вецер, бліскавіцы,
А вось і дождж лінуў — прымай!

Тчэ навальніца уладарна
Заслону дню з дажджу і хмар.
Але на трон узлазіць марна,
Май — сонечнасці уладар.

Ён ажывіў блакіт высокі
У цёплым подыху вясны
А навальніца — на уцёкі,
А з ёй дажджы і перуны.

## Пачуццяў бочка мёду

Тэлефаную — ты маўчыш.
Тэлефануеш — я алёкну.
І слоў салодзенькіх кіш-міш
Пасыплецца, як промні ў вокны.

Ах, як прыемна ў гэты час
Піць недамовак асалоду.
І звязвае надзейна нас
Пачуццяў нашых бочка мёду.

Раптоўна ў гэту смакату,
Невыпадкова, выпадкова,
Ад нечых вуснаў, на ляту,
Трапляе дзёгцю адно слова.

Маўчыць твой рот, маўчыць мой рот,
І два мабільнікі без працы.
Каб не пачуццяў нашых мёд,
Адкуль бы дзёгаць мог узяцца?

## Баба з воза...

Прыемна у цяні спякотным днём,
Дарога ў лесе вузкая, як сцежка.
Мужык кіруе лейцамі канём,
За ім на возе баба, як капешка.

Конь прыхуднелы і, відаць, знямог,
А тут яшчэ карчы, калдобы, суччa.
Магчыма б весялей ён клыпаць мог,
Каб з мужыком не гэта баба-куча.

І бедны конік, аж узмок увесь,
Мужык сабе кіруе — нуль увагі.
Пад бабай той калёсы скрып ды трэсь,
Гатовыя даць дуба, бедалагі.

Дарога… Лес… Карчы… Спякотны дзень…
Мужык з цыгаркай… Баба, нібы скула…
На шчасце, трапіў пад калёсы пень,
І бабу з воза, быццам ветрам здзьмула.

Мужык сабе кіруе — ўвагі нуль,
Што раптам стала пуста за плячамі.
А конік — сілы у яго адкуль,
Перабірае весела нагамі.

## Год насмарку

О, як квітнеў садок,
Усцешаны вясной.
Не ведаў ён,
Ад сумных думак вольны,
Што ў кожнага з нас ёсць
Свой вораг за спіной,
Які на ўсё, што нам не трэба,
Здольны.

І сад стаў вінаваты
Без ніякае віны,
І квецень не пазбегла
Горкай долі,
Бо вораг саду, замаразак,
Ноччу, «са спіны»,
Падкраўся раз і два,
І тры, і болей.

А сад жа планаваў
Нам выспяліць плады,
А сад трымаў, як кажуць,
Годна марку.
Ды напаткалі сад
Начныя халады —
І мары ўсе, і цэлы год —
Насмарку.

## Высакоснасць

Ранак быў вясёлы, вечар посны,
Хутка тое й тое праміне.
Эх, жыццё-маланка, лёс мой высакосны,
Дзе ад панядзелкаў дзецца мне?

Гляну у люстэрка — кісла, млосна,
Быццам я нагамі да гары.
Хто яе прыдумаў, гэту высакоснасць?
Для чаго 13 у календары?

Быццам год складаюць толькі лістапады,
А вясны увогуле няма.
Ўсё-такі жыццю я вельмі рады,
Вам, вясна і лета, восень і зіма.

## Садок на новым месцы

Я сад уздзвіг на голым месцы,
Садок даволі не благі.
І не забыйся ў ім завесці
Руплівых пчол раёк-другі.

Ад аднагодак да паўвеку
Сталеў і рос ён і расце.
Ніводнаму я чалавеку
Не адмаўляў у смакаце.

Гады былыя, дзе вы, дзе вы?
У сэрцы боль, у галаве —
Я састарэў хутчэй за дрэвы,
Садок мяне пераҗыве.

Скажыце, хто б мне даў параду,
У вечнасці як векаваць?
І як я ТАМ буду без саду,
Што буду песціць, даглядаць?

Я ў Бога, пры любой пасадзе,
Слязамі шчокі апяку
І засумую ў райскім садзе
Па гэтым, па зямным садку.

Вы саджанцы мне і рыдлёўку
Прыладзьце ціхенька ў труну.
Садок садзіць я буду зноўку
Там толькі — ў першую вясну.

# Дойлід

Я дойлід сябе самога,
Ляплю вобраз свой пакрышку —
Узяў і, з дазволу Бога,
Дадаў да жыцця зямнога
Блакітнага неба лыжку.

Дадаў і агню, і лёду,
Каб ураўнаважыць характар.
Дадаў лыжку дзёгцю, а мёду
Забыўся дадаць — эх, аматар!

І ветру дадаў, і маланкі,
І першага майскага грому.
І мамінай калыханкі,
Што пелася мне маламу.

І белай рамонкавай пены,
Якая ўскіпела ў полі,
І моцнага цёртага хрэну,
І трошкі душэўнага болю.

Ад гэтай сваёй знаходкі
Душы адчуваю крыкі,
Боль мой за час кароткі
Зрабіўся нясцерпна-вялікім.

Дадаў (эх, жыццё-прапажа!)
Не мала загулу начнога,
Дадаў і гарэлкі — а як жа!
Яе — без дазволу Бога.

Дадаў і харчы на закуску,
А потым дадаць я мусіў
І трошкі працы ў нагрузку,
Хаця без яе абыйдуся.

Дадаў да святой я злосці…
Што?.. Гэта ўжо не для прэсы.
Калі ж прапусціў я штосьці,
Дадасца па ходзе п’есы.

Цяпер я — заўсёды новы,
Маланкава-непрадказальны
І ветраны, і храновы,
Падпіты, запамінальны.

# Рукі

О рукі мае, дасталося вам шмат…
Адкуль у знямоглых надзейная сіла?
Ў вас шчырасць вясковых, даверлівых хат,
Вас выхаваў плуг, вас каса блаславіла.

Баліць мне душа, разглядаючы вас,
Бо праца, што зведалі вы — не забава,
Бо вамі за «так» карыстаўся калгас,
Вас эксплуатавала бязбожна дзяржава.

На вас пазірае былога ашчэр,
Ад працы знямоглай пакуль адпачніце.
Паколькі вам плуг не пад сілу цяпер,
Трымайце пяро — і пішыце, пішыце.

## Значныя падзеі

Як пахнуць травы, скошаныя ўчора,
Яны прывялі, набылі духмянасць,
Як фіміям нябеснага Сабора,
Ў якім нябачна фітанцыдзіць радасць.

Якая праца кос, якое ўкоссе!
Лугі ў лінейку сцеляцца у далеч.
І хочацца прылегчы на пракосе,
І па-дзіцячы марыць, марыць, марыць.

Працоўных будняў значныя падзеі,
Як подзвігі сялянскага штодзёння.
Касцы, даяркі, сейбіты і жнеі,
Заўжды былі кармільцы, як і сёння.

## Мары

А мары такія кароткія,
А мары такія салодкія.

Яны, як няўдачы, ліпучыя,
Яны, як пакуты, балючыя.

А мары, як крылы нябачныя,
Як пахі загадкава-смачныя.

Яны, нібы радасці штучныя,
Яны, як назолы дакучныя.

Без мараў жывеш абяскрылены,
А з імі… да іх жа прыхілены,

Да іх, на рэальнасць памененых —
І здзейсненых, і не здзейсненых.

## Раз-два і ў дамкі

Пахнуць звялыя пракосы
Раздухмяніста.
Расплятайце, дзеўкі, косы
І я прыду праставалосы,
Пакачаемся.

Лета-лецейка абудзіць
Ўсё паспелае.
І фата з сукенкай будзе
Сніцца белая.

Ў небе, вунь, з буслiхай бусел,
Закаханыя.
Вяжуць лёсы два у вузел,
Два — абраныя.

А між намі абяцанкі,
Як сустрэнемся.
Ну, смялей! Раз-два і ў дамкі!
І ажэнімся.

## А-яй! О-ёй!

Ёсць праца — ад яе не збочыць,
Як не хавайся ў хатцы.
І хоць палохаюцца вочы,
А рукі ўсё ж у працы.

Вясна прыйшла. Усе мы рады,
Бярэм рыдлёўку ў рукі.—
А-яй! О-ёй! Якія грады!
Калі ж дасі ім рады?

Ускопваеш і рук не чуеш,
Ў сярэдзіне ламóта.
І ўсё-ткі на зямельцы днюеш
Да сёмага аж поту.

У восень на стале не пуста,
Для ўцехі ёсць прычына —
Ай бурачкі! Ай ды капуста!
І бульбачка, і хлеба луста —
Які я малайчына!

## З народзін

Насустрач неба мне імчыцца
І ветрык хмельны ўлегцы.
І толькі сонца, як на нітцы,
Вісіць на адным месцы.

Мае надзеі-абяцанкі
Заўжды са мной — напáру.
Я грудзі падстаўляю ранку
І коніка прышпару.

Сарока з сойкай ладзяць спрэчку —
О, як я сэрца цешу,
Як толькі ўбачу поле, рэчку,
За ёю — крылы лесу.

Усё у гэтым карагодзе
Знаёма і любіма.
Якое шчасце, што з народзін,
Са мной мая Радзіма.

# Ілля

*Прыйшоў Ілля*
*Нарабіў гнілля.*
(прымаўка)

Кудлаціцца дзень неласкавы
Клубамі няветлівых хмар.
І дождж абкладны, як аблава,
Гняце, як няздзейсненасць мар.

І зноўку за хмараю хмара,
І гром абудзіўся глухі —
Нібыта Біблейская кара
На нашы зямныя грахі.

І ўсё ж не таму Бог нас мочыць,
Хоць грэшныя ўсе мы і я.
Да нас разам з хмарамі крочыць
Біблейскае свята — Ілля.

## Раўлі у лесе пілы

Раўлі у лесе пілы лесніковы,
Бяроз дзялянку рэзалі на дровы.

Што па квітках збывалі, што налева,
Ў цане — было і ёсць любое дрэва.

Бензапіла — для дрэў усіх пагроза,
Й знікалі за бярозкаю бяроза,

Валіліся, спаткаўшы злую долю,
І падалі, каб не устаць ніколі.

Развітвацца з жыццём заўсёды цяжка,
А тут вясна прыйшла уладна й важка

І ахінула ўсіх прыветным вокам,
Заплакалі сваім жалобным сокам

Калекі пні пазбаўленыя дрэваў,
Не будзе чутна тут птушыных спеваў.

Раўлі у лесе пілы, пілавалі
Бярозак, што аб будучыні дбалі,

Жылі, раслі і марылі аб шчасці,
Ды давялося на зямельку ўпасці.

# Двуадзінства

Ў маленства збег бы, каб толькі мог,
Дзе першых ранкаў маіх пялёсткі —
Раса сумуе без босых ног,
Без гаманы дзіцячай — вёскі.

Прымі такога мяне, той час,
Старога знешне, душой малога.
Мне б акунуцца ў цябе хоць раз,
Пагрэцца сэрцам — і больш нічога.

Ці быў бы там я жаданы госць?
Маленства й старасць — двуадзінства.
Мільёны зорак у небе ёсць.
Там недзе й зорка майго дзяцінства.

## Праўдзівая фантазія

А можна я пафантазірую?
Напрыклад, шчасце дзесь знайшоў я,
Таму і не вярнуўся з выраю
Вясной да роднага гняздоўя.

О як жа смачна мне там елася,
Пілося смачна пасля ежы.
І нават яхтай абзаймеўся я
Пад пальмамі на узбярэжжы.

Так піў і еў я, пуза грэючы,
Як ля карыта могуць свінні,
Як ля смятаны Катафеічы
У незласлівай гаспадыні.

І раптам стала невыносна мне,
І ні да пальмаў, ні да раю.
Сасніў, што быццам ранкам росным я
Баравічкі я сабіраю.

Прыснілася, што зноў у вёсцы я,
Забыўшыся на ўсё благое,
І хата родная бацькоўская
Мяне частуе сырадоем.

І ўжо аб доме толькі думаю,
Як кажуць, адусюль падпёрла,
Зрабіўся сам не свой ад суму я
І смаката не лезе ў горла.

Да д’ябла ўся гэта экзотыка,
На поўдні тут аж ванітуе.
Абрыдла мне ўсё тут да чорцікаў —
Дамоў, дамоў, дамоў хачу я!

О як балюча на душы скрабе,
Мне не адужаць гэта гора —
На шыю камень пачапіў сабе
І з яхты кінуўся я ў мора…

Зямля чужая душыць гіраю
Душу, што аб Радзіме дбаецца.
Дык вось чаму ўсе птушкі з выраю
Ад веку ў век дамоў вяртаюцца.

## Жабрак і кароль

На сцэне заўсёды жабрак і кароль,
Таксама, як радасць і гора.
Я вывучыў словы, я ведаю ролю —
Не трэба, не трэба суфлёра!

Упэўнены, прымуць спектакль гледачы,
Амаль што усе, без дакора.
Адно толькі — ролю б сваю зберагчы
Такую, як ёсць — без суфлёра.

Няхай не кароль я, але й не жабрак,
Ні заўтра, ні сёння, ні ўчора.
Не дадзена вам зразумець аніяк
Адмову маю ад суфлёра.

## Перадсвяточнасць

— Заўтра свята, дзякуй Богу! —
За сняданкам кажа маці —
Ты, дачушка, мый падлогу,
Трэба ўсе вуглы прыбраці.

Пабяліў бы печ ты, Федзя,—
Павярнулася да мужа.
— Ну а хто пад ложкі ўлезе,
Шмат там рознага задужа.

Ўжо вясна, а там валёнкі,
Іх — за печ, другое — ў сенцы.—
І зірнула на Сымонку,
— Ты, сыночак, гнуткі, токі,
Пазгінай крыху каленцы.

Ну а я здыму гардзіны,
Разам з мылам дам ім свежасць.
А праз нейкіх тры гадзіны,
Дровы ў печ — займуся ежай…

Свята! Ды якое свята!
Кожны ў працы — і не дзіва.
Спраўна поўнілася хата
Дружнай гаманой руплівай.

Ну а мы ім пажадаем
Ўсё прыбраць прыгожа, чынна.
Лепш мы заўтра завітаем
За святочны стол гасцінны.

## Два характары

Ёсць людзі незласлівыя, на дзіва,
Усё прымаюць моўчкі і цярпліва.
Іх вытрымка нетлумачальнай моцы,
Яны, быццам без нерваў і эмоцый.
Няўжо ў іх тое ціхае балота,
Ў якім жывуць нячысцікі з ахвотай?
Яны сваім характарам належаць
Не да сабакі, які толькі брэшыць,
Але не ўкусіць, хоць увесь звяглівы,
А да таго, што знешне не зласлівы
І ціхі, і спакойны ўвачавідкі,
Вось ён знянацку і ўгрызне за лыткі.
Не, я не давяраю поснай масцы,
Яна, як алкаголік у завязцы,
За ёю столькі скрытнасці адвечнай,
Не выключана, што і небяспечнай.
Не, больш цаню характар я запальны
І выбуховы, эмацыянальны
Гаворку больш прыемна весці з імі,
У іх другога дна няма ў паміне,
У іх на языку ўсе заляпоны,
А гэта лепш, чым у душы праклёны.

## Апошні шанс

Я хутка, хутка вас пакіну,
Бяздомнікі, мой лёс, мой боль.
І я ад гэтай думкі стыну,
Яна мне, як на рану соль.

Я вас ўратаваў не мала,
Тулiў, кармiў, рабiў, што мог,
Усім дзяліўся, бачыць Бог,
І ўсё-такі вас менш не стала.

Душа з душой — ці ж не багацце?
Быў кут багаты вамі мой.
Бывала, не ступіць у хаце
Ад вас, у маразы, зімой.

Вы шчырасцю — вышэйшай пробы,
Вы ўсе, але ў жыцці-віры,
Усё здаралася — хваробы
І лекі, і ветдактары.

Ў неўладкаванай кругаверці,
Ў якой і дзень жыцця — аванс,
Нярэдка, між жыццём і смерцю,
Для вас я быў апошні шанс.

Бяздомнікі — як дзірка ў мосце,
Праблема ваша — нічыя.
Дай Бог, каб вам спаткаўся хтосьці
Пасля мяне, такі, як я.

Я побач з вамі быў шчаслівы
І вось мінае гэты час.
І як жа без мяне жахліва
Ўявіць на гэтым свеце вас.

Страшней, чым ёсць, вас абяздоліць
Магчыма толькі ў страшным сне…
Наколькі памяць вам дазволіць,
Вы будзеце чакаць мяне.

Чакаць, шукаючы заку́ты,
Чакаць — чаму мяне няма?
Вас будзе грызці голад люты,
Дажджы ліць, свірапець зіма.

## Плынь сляпая

Плынь усіх вякоў — сляпая,
Не заўжды празрыстая.
Шмат карыснага змывае,
Штось да каранёў сцірае,
Штосьці пералiствае.

Плыні той надоўга хопіць,
Й нас яна імчыць, нясе.
Ўсё і ўсіх яна падхопіць
І глытае пакрысе.

Намі свет вялікі повен,
Глядзь — а многіх не відно.
Кожны з нас — дзіравы човен.
Час прыйшоў — ідзем на дно.

Эх ты, шторм дзевяцібальны,
Эх ты, надыход зімы!
Мара — круг наш ратавальны,
Ратаванне наша — мы.

# Маскі

*Что в том, что на вселенной — маска?*
Борис Пастернак

Сусвет мяняў адвечна маскі,
Як мы пальчаткі на руках.
Адны былі ў рэжыме царскім,
Другія — пры бальшавіках.

Заўсёды ў масках дэмакраты
І камуністы ў масцы слоў.
Крывёй заліўся век дваццаты —
Фашызму маска — смерць і кроў.

Век дваццаць першы хворы цяжка,
Хто ведае, што будзе з ім?
Яго жахліва душыць маска,
І цяжка дыхаць нам усім.

## Амінь

З зямлі — агульнае грабніцы,
Імкнуцца ў высь за Храмам Храм.
І з кожнай чуюцца званіцы
Званы, як напамінак нам.

Пра тое, што жыцця аблога
Пярэйдзе ў прах, нябыт і стынь
Нішто не вечна, апроч Бога,
Таму маліцеся — амінь!

Званы ўспрымаем сэрцам чулым,
Іх прагна ловіць душаў слых.
Па кім званы? І па мінулым,
Таксама і па нам, жывых.

## Улегцы не дайсці

Цяжкі ты, крыж, цяжкі,
Данесці б мне.
Жыццё, нібы вякі,
Да долу гне.

Калісьці дзён слата —
Нібыта крок.
А сёння дзень — вярста,
Знямог, узмок.

Вакол то «ай», то «вой»,
Ды тут і я.
У кожнага крыж свой,
Вага свая.

І чым ён, крыж, цяжэй,
Тым больш грахоў.
І чым фінал бліжэй,
Больш стыне кроў.

Бязгрэшных у жыцці —
Шукай, свішчы.
Улегцы не дайсці
Нам да свячы.

# Рачулачка

Рачулачка, без назвы, пэўна,
А на ізлучынах напеўна
Пераліваецца, спявае,
І вабіць песня векавая
І чалавека, і расліны.
Тут — трапятлівыя асіны,
Лазняк дасціпны дзе-нідзе,
Глядзецца любіць у вадзе.
А ўжо зусім бліжэй да рэчкі,
Шчыруюць дзікія парэчкі.
Там, дзе крыху вышэй зямля,
Над іншымі, відаць здаля
Ляшчынаў пышныя чубы,
Імхом паросшыя дубы,
Бяроз пабеленыя станы.
А  на зямлі, з вясны прыбраны
Дыван зялёны саматканы.
Вось вам і сціплая рачула,
А да сябе ўсіх прыхінула.

## Не вернеш

Паласа жыцця звышняшчасная
Паланіла сабой мяне.
І здаецца мне сном сучаснае,
Сном жахлівым, які міне.

Ды не можа быць, каб акрысіўся
На мяне Бог, на ўсю радню.
Я упэўнены, ўсё адхрысціцца,
Ўсё адновіцца, ўсё я сню.

Ах пякуча як сэрца боль кране,
Паласне разуменне таго,
Што душы пакуты не сняцца мне,
Што не вернеш былога майго.

## «Проста так»

На лецішчы, улетку,
Як нейкі тайны знак,
Вяртлявая суседка
Прыходзіць «проста так».

Прыладзіцца ў куточку,
Каленьмі бліс ды бліс.
І можа ўсю так ночку
Сваю раскладваць «жысь».

Што любіць кніжкі дужа,
Якія я пішу.
Як цяжка жыць без мужа,
Як сум лезе ў душу.

— А сум здароўю шкодзіць,
Адна я, ўсё адна…
Чаго яна прыходзіць?
Вунь, зноў ідзе яна.

## Як па лязу

Кацілася слязою гора па жыцці,
Усмешкай ззялі радасці і святы.
Яшчэ былі між гэтым, як тут ні круці,
Не слёзныя й не радасныя даты.

Сустрэчы, расставанні — незлічона іх,
Абноўкі, несвяточныя застоллі.
Мы заўважаем дзень і не заўсёды міг,
Мы лічым дрэвы, а не лічым голле.

Мы памятаем больш усмешку і слязу,
Душы уздым і сэрца засмучэнне.
Мы па жыцці ідзём, як босы ля лязу,
Балюча, з пакалення ў пакаленне.

## Дык не!

Хто і за што глядзіць услед мне грозна?
Чаму ў вачах несхóваная злосць?
Мяне закрэсліць хоча хтосьці? Позна!
Я быў дзесяцігоддзі й сёння ёсць.

І білася, і сёння сэрца б’ецца
З людзьмі і часам, як адзіны такт.
А тое, што было, ўсё застанецца,
Як памяць, як біялагічны факт.

Заўсёды ёсць і будуць недатумкі,
Народжаныя у жыцця на дне.
Здаецца ім, што можна крэсліць думкі
Альбо паветра адмяніць — дык не!

# Дрэвы

Вы, дрэвы, больш богаугодныя,
Пародныя і безпародныя.

Ваш свет — свет мараў і надзей,
Бог любіць больш вас, чым людзей.

Нам для жыцця не шмат даў год,
Вам — сто, і трыста, і пяцьсот.

Вы — нам сябры ад веку ў век,
А хто вам вораг? Чалавек.

Чым дыхаем мы? Кіслародам,
Якім адорваеце нас.

Мы вас атручваем смуродам
І хіміяй — за разам раз.

Для вас мы шмат прыносім болю,
Знішчэння, здзекаў і нягод.

Нас на зямлі — ўсё болей, болей,
Вас — меней, меней, што ні год.

Я выкрысці і больш бы мог…
За што любіць нас будзе Бог?

## У рукі флаг

Здаралася і мне з уладай быць на «ты»
І памятую я сваю пасаду тую.
Спусціўся на зямлю, спаліў усе масты,
Каб не было назад шляхоў —
І не шкадую.

Не раз у цэнтры быў
Адказных спраў, падзей,
Не па душы мне ўсё ж
Уладная аздоба.
І хоць не мала ёсць
Разумных там людзей,
Усё там не маё,
Я — творчая асоба.

Хто здольны да чаго,
Той прафесійны маг —
Я памятую гэту ісціну старую,
Таму, кармільцы нашы,
Вось вам у рукі флаг,
Кіруйце ўверсе там,
Я вершам «падкірую».

## Толькі вышэй

Множыць жыццё абароты,
Сцішыць бы іх, прытрымаць.
Я адчуванне палёту
Перастаю адчуваць.

Дождж паглынае абшары
Сонечнасць дня — тума́ны́,
Абезружоўваюць хмары
Звонкі світанак вясны.

Прэч і ад снежных заносаў,
Ад безгаловіц хутчэй.
Толькі вышэй сінь нябёсаў,
Сонечнасць, зорнасць начэй.

## «Карона»

Між намі вірус і не чутна лекаў,
І ад яго «кароны» стыне кроў.
Стаў чалавек баяцца чалавека
І дзеці не наведваюць бацькоў.

Ідуць пад штучна створанай «каронай»
Не, не на трон — ў апошні шлях, на жаль.
І кожны перад ёй безабаронны,
І смерць па ўсёй зямлі спраўляе баль.

Накрыў планету жах, нібы цунамі,
Вяршыня дзе яго? Дзе глыбіня?
Між марамі, дзяржавамі, між намі —
Нябачная і бачная сцяна.

Не раз праходзіў чалавек праз мукі,
І пройдзе зноў праз іх, пакуль жыве…
А вынаходнік пацірае рукі
І носіць вірус новы ў галаве.

*28.04.2020*

## Адысея наша

Мы самі адысею нашу
Ствараем з нашых дзён і год.
Калі плывём па плыні часу,
То сцішваем, то шпарчым ход.

Плывём да ўласных эпітафій,
Плынь лёсу ў кожнага свая.
У тэксце аўтабіяграфій
Праз слова-два, стракаціць «я».

О плынь! Яна для нас, як цуглі,
Ды ёсць ва ўсе часы яны,
Хто супраць плыні, адчаюгі
Плывуць — і ім няма цаны!

Яны — за незвычайнай мэтай,
За незнаёмы далягляд.
А большасць нас — плывём у Лету,
Пад вечны Вечнасці дагляд.

## Лёс-гарбень

Пішу пра тое, што мне «баліць».
І адчуваю да сёння я,
Што прагу ведаў не наталіць,
Як нашу прагнасць да жыцця.

Кратом не лез я у нару
Пад сонцам лёсу, адкрыццяў, мар.
Вучу я й сёння, я зубру,
Як першакласнік, жыцця буквар.

О, шчыравала душа мая
Сярод праблем, разумных кніг.
Жыццё канчаецца, а я
Так шмат не зведаў, не спасціг.

Цаніў, калі быў малады,
Адукаванасць — і цаню.
Як я зайздросціў заўсёды тым,
Спасціг хто ведаў глыбіню.

Хоць састарэў мой лёс-гарбень,
Усё ж да ведаў не стыне кроў.
Навуку грыз бы я ноч і дзень,
Ды не стае ўжо гадоў-зубоў.

## Гасцінна і ветліва

То знік далягляд, то адбег, то наблізіўся,
Вунь лес, ледзь стаіць на нагах.
Няўжо так насёрбаўся я, накілішыўся?
З якой такой радасці? Га?

Бярозавы гай, нібы сад мой, пабелены,
А вербаў ля рэчкі — чарга.
Здаецца, ўвесь свет закаханы, захмелены —
З якой гэта радасці? Га?

Дадам я сто грам, папярэднім асветлены,
І знікне самота-туга.
Прашу вас за стол мой, гасцінна і ветліва —
За ваша здароўеца! Га?

## Струны душы

Напрыканцы мой аптымізм імунны,
Жыццё маё, яно вось-вось міне.
Шукаю я ў душы такія струны,
Якія ажывілі б сэрца мне.

Якія б схаланулі жыватворна
Ўсё тое, што да сёння сэрцам п'ю,
Што колісь запаліла ў небе зорным
І зорку пуцяводную маю.

Яна вядзе мяне! Яна не згасла!
І з ёю я душою не сляпы.
І вяжа ўзнёслых думак перавясла
Паэмы й вершы ў творчыя снапы.

Я, марыцца, не знікну назаўсёды
У вечнасці, у тлумных год слаце,
Бо зерне слоў узнёслых дасць усходы
І ў глебе часу творча прарасце.

Узрушце свет, душы бяссоннай струны,
Свет, мной пражытых год, ён не чужы,
Каб іх адчуў я блазнюкова-юны
І сталы, і цяпер вось — на мяжы.

# І ні слыху, і ні духу

*Памяці, пайшоўшых з жыцця калег.*

Я начэй не спаў, пісаў,
Выпадала, чарку піў,
Пры жыцці я працаваў, я жыліўся.
А цяпер, як я «пачыў»,
Старшыня ўсім абвясціў,
І калегі — ўсталі, селі —
І… забыліся.

«Тары-бары» — зноў яны,
А на тварах, хоць бы хны,
Не кранула чутае.
Дробязь — нечы вечны сон,
Кожны рады, што не ён
Адпакутваў.

Эх, жыццё — дабро і зло,
Ўсе мы — да крыла крыло
Ўсе мы таленты, усе ў цане.
Колькі нас з жыцця пайшло,
А праз час — як не было,
Быў ці не?

## Заклапочанасць

Прыклаўшы да сэрца руку,
Няўпэўнены я — і даўно,
Магчыма, сяджу на суку,
Які хутка сам і ссяку.

Магчыма, што па баразне,
Выклыпваю перад канём
І год, што жыве адным днём,
Бясплоддзем знясла́віць мяне.

І б'ецца сумленне маё,
Як ранены птах, без крыла —
А што, калі з'еўшы сваё,
Падсеў да чужога стала.

## Бязгучны баль

Жыццё з давён-даўна — то дні, то ночы,
То ночы, дні, то вечнасці сцяна.
Мы, ўсе жывыя, ў будучыню крочым,
У светлую ідзём, а дзе яна?

Яна — праз век і заўтра — не далёка,
Яна, нібыта ў сне бязгучны баль.
Зірнуць бы на яе адным хоць вокам,
Яна ж — недасягальная, на жаль.

За тое, што жыву, я Богу дзячу,
І ўсё ж сціраю кроплю са шчакі.
Я будучыню так і не пабачу,
Бо для жывога «сёння» — на вякі.

## Край бацькоў

Не схлыне часу вечнага паводка,
Не ўвойдзе ў нашых лёсаў берагі.
Люблю цябе, зямля бацькоў, пра-продкаў,
Цябе, адзіны край мой дарагі.

Мяне з народзін цеплынёй адорваў
І водарам палёў, лясоў і ніў.
Сярод табе прысвечаных мной твораў,
Адзін ёсць, ганаруся я каторым —
Сваё жыццё табе я прысвяціў.

З табой, наш краю, маем лёс адзіны
І помнім мы ў час святаў і бяды:
Што як жыцця не будзе без вады,
Нас не было б без маці і Радзімы.

## Першы летні дзень

Над блакітнай рэчкай
Неба парасон.
Сонца шляхам вечным
Узыйшло на трон.

Ззяе, пазірае
З лецішча свайго.
Ветрык адганяе
Хмаркі ад яго.

Ой, як даспадобы
Сонейкі агмень!
Сёння дзень асобы —
Першы летні дзень.

Кажуць, ёсць прыкмета,
Знаная даўно —
Як пачнецца лета,
Й пройдзе так яно.

## Святкуй ці вый

Мой час! Ты быў маім і я
Шпынаў цябе на левай й права.
Лічыла маладосць мая,
Калі ўжо жыць, дык жыць рухава.

І я, пакуль быў малады,
Свой час агуліў, а не важыў.
А вось калі мае гады
Ссівелі, я і не заўважыў.

Мой час! Маім ты быў… ніколі,
Ты — над усімі, ты — нічый,
Ты — паза долі і нядолі,
Ты — «глух і нем», святкуй ці вый.

## Маёй бяды гады

У які не глянеш бок,
Прывід дзён сучасных блудзе —
Людзі, людзі — бачыць зрок,
Сэрцу бачыцца бязлюддзе.

Кожны лёс свой між людзей
Мерае па ўласнай мерцы.
Але ж бачым не вачмі
Мы жыццё, а зрокам сэрца.

Вы, маёй бяды гады,
Варты аднаго — праклёну:
Сум, бязлюддзе, халады —
Пазайздросціш Рабінзону.

## Які?

Так. Правіла ёсць залатое,
Пісаць, пазбягаць небыліц,
Пісаць пажадана пра тое,
Вядомае што да драбніц.

Пісаў я пра родных і блізкіх,
Пра голад, пра жахі вайны.
Пра ўсё — ад малечай калыскі
Да сталасці, да сівізны.

Пра тую нялёгкую долю,
З якою злучыў усіх час,
Пра ўсё, што знаёма да болю —
Пра свет, пра дзяржаву, пра нас.

Адказваў па-свойму я — хто мы?
Супольнасць?
Грамадскасць?
Сям’я?
І ўсё ж больш за ўсіх мне знаёмы
Не хтосьці, не штосьці — сам я.

Рэальны я, не небыліца,
Я сам для сябе — не сакрэт.
Вазьму й раскладу па паліцах
Унутраны аўтапартрэт.

Глядзіце!
Дзівіцеся!
Вось я!

Такому — сам чорт панібрат.
Ёсць, пэўна, ўва мне і двухкоссі,
І розных пытальнікаў шмат.

Раптоўна пытанне паўстала,
Штурхае мой форс у бакі:
Пражыў я з сабою не мала,
А ўсё-ткі, які я? Які?

Харошы?.. Прыплюснуўшы вока,
Магчыма й такое сказаць.
Благі?.. Да благога далёка —
Складана мне гэта рашаць.

І выпала ручка ад стомы
На аркуш паперы з рукі.
Сабе нават я незнаёмы —
І зноў жа пытанне — які?

## Святая

О мова беларуская святая!
На ёй спявалі калыханку мне,
Усіх яна ласкава прывітае,
Усіх яна гасцінна прыхіне.

У ёй і гістарычныя паданні,
Нацыянальны наш аўтарытэт,
На ёй спрадвек спяваюць пра каханне,
На ёй і гімн дзяржавы чуе свет.

Трымаю я праклён напагатове,
Вам вельмі ведаць хочацца, які?
«Хто лаецца на беларускай мове,
Няхай у тых адсохнуць языкі».

# Попелу не хопіць

Прыйдзі ў рэальнасць нашу, суд Эзопаў,
Каб усвядоміў твой прысуд мой нораў.
Як шмат маіх станоўчых недахопаў,
Ды больш маіх адмоўных пераборaў.

А за маімі ўсімі «неда» й «пера»
Стаялі колісь людзі, ўчынкі, лёсы.
Вось вам і у дабро святая вера,
А ў выніку памылак хмарачосы.

Навошта суд Эзопаў?
Свой галопіць
За намі следам — наш прысуд суровы.
Усяго свету попелу не хопіць
На нашы вінаватыя галовы.

## Другі прыклад

Я кнігу казак перад сном вазьму,
Чытаю ўсмак, нібыта той малец.
Люблю я казкі дацяпер таму,
За тое, што шчаслівы ў іх канец.

І хоць у іх шмат страхаў і пачвар,
І колькі б там прыгодаў не было,
Усё ж напрыканцы, як Божы дар.
Дабро заўжды перамагае зло.

Адсунем казкі на хвіліну ў кут,
Агучым прыклад сумны і другі:
Жыццё, як казка, як вялікі цуд,
Але ў яго канец для нас благі.

## «Разумныя» вершы

*Чытаючы М і Г*

Чытаю «разумныя» вершы —
Халодныя творы,
Разумных маіх, ды халодных
Душою калег,
Нібыта плыву па паўночным
Няветлівым моры
І шчырасці бераг шукаю —
Жыцця абярэг.

«Разумныя» вершы…
Паэзіі розуму мала,
Каб вобразнасць, тэмы, радкі
Выкрасалі святло,
Каб крыліла вольнае слова
І ў неба ўздымала,
Каб цешыцца сэрца,
Смяяцца і плакаць магло.

Адкуль ён, нябачны выток
Паэтычнага слова?
Адкуль бы ні быў,
Толькі не ад разумнасці ён.
Вунь, колькі на нашай планеце
Разумнагаловых,
А толькі паэт паміж імі —
Адзін на мільён.

## Вастрыня пачуццяў

У маладосці вастрыня пачуццяў
Вастрэй, чым нож, чым зроку вастрыня,
Кажуць, вастрэй, чым цішыня ў бязлюддзі,
Чым самых вострых думак глыбіня.

І нават успрымае пахі, гукі,
Па-свойму востра час наш малады.
І толькі… толькі роднай маці рукі
Ласкавыя да нас ва ўсе гады.

Ўсё гэта так, ды не зусім бывае,
Не мала можна прыкладаў знайсці,
Калі душа, і ў горы, маладая
Больш бесклапотна скача па жыцці.

Расце спачатку й яблынька бясплодна
І не захоча без пары цвісці.
Вось так і маладосці неабходна
Да адчуванняў вострых дарасці.

І перажыць хоць раз бяду чужую,
Як гора лёсу ўласнага свайго.
Той сэрцам боль чужы хутчэй адчуе,
Хто сам хоць раз бы перажыў яго.

## Стрыманасць

Мы кожны, паасобку пуд свой солі
З'ядалі ў абасобленай цішы.
Ніхто не пацікавіўся ніколі,
Што ў маім сэрцы, што нашу ў душы.

Не вельмі лез і я ў чужыя душы,
Бывала, жыў не сэрцам, галавой.
Ў такім вось узаемараўнадушшы
Зжываем век напружаны мы свой.

І раптам…
Гэта ўсё часцей бывае,
«Нагамі ўперад» прэч ідуць сябры.
І разумееш — іх душа жывая
Тваю душу ніколі не спаткае,
Каб боль раскрыць свой у жыцці-віры.

## Між берагоў

У рэдкі час нясцерпнае тугі
І адзіноцтва горкага майго,
Сучаснага й былога берагі
Усё далей адзін ад аднаго.

А я між імі, мне ўжо не відаць
Ні іх, ні ратавальную руку.
І да якога берага прыстаць,
Дзе смерць, а дзе жыццё, ў якім баку.

І ні пры чым адліў тут і прыліў,
Рака жыцця цячэ… пакуль цячэ.
Ад аднаго я берага адплыў,
Ну а другі я не адкрыў яшчэ.

## Цень міражу

Што́ я ў вачах тваіх!
Як кропля ў акіяне,
Калі не бачу іх,
Я слепну, бы ў тумане.

Што́ ў сэрцы я тваім!
Кахання толькі рэха.
Мой рэквіем па ім —
Адзіная уцеха.

Што́ без цябе я! Хто?
Цень міражу ў пустыні,
Каменнае плато,
Дзе ўсё жывое гіне.

## Спасцігаем

Стацыянарна вучымся, надомна,
Прымаем з асалодай творчай мукі.
Ўсё чалавецтва цягнецца нястомна
Да розных ведаў, да святла навукі.

І адступаюць непісьменства цені,
Бо ўсе мы прыкладаем намаганні —
Ступіць на навуковыя ступені
І дарасці да навуковых званняў.

Навука жыць, па ёй ідзем мы краем,
Галоўная для ўсіх нас небяспека —
Мы ўсё мяркуем, цяжка спасцігаем,
Як палюбіць жывога чалавека.

## Сучаснікі мае

Праз цяжкасці ішоў я з вамі, людзі,
І сёння вецер часу ў грудзі б’е.
За ўсё, за ўсё, што ў нас было і будзе,
Падзяка вам, сучаснікі мае.

Пасля вайны, жыцця перыяд ранні
Нас загартоўваў і сёння — пакрысе.
Мы праз усе прайшлі выпрабаванні,
Мы адзначалі разам святы ўсе.

Каб нашы справы не знікалі ў Лету,
Мы ўсе жылі для будучых людзей.
Жыцця перадаём мы эстафету
У рукі светлых мэтаў і надзей.

## Узаемнасць

Ёсць ціхі куточак зямлі ў Беларусі,
З якім я звяза́ны душой на вякі,
Якім я народжаны і ганаруся —
Жылі тут мае і дзяды, і бацькі.

Адрэжце у птушкі жыццё яе — крылы,
Падкіньце ў паветра, яна не ўзляціць.
Вось гэтак і я, без цябе, краю мілы,
Не тое, ўзляцець каб, не здолею жыць.

А ўсё ж шчыраванне любові ўзаемнай,
Ад нас незалежна аднойчы міне.
Мне будзе ў зямлі без цябе непрыемна,
Ды й ты з ціхім сумам успомніш мяне.

## Песня

Ой складана без каханай
Аднаму нязменна.
Ой не проста скокнуць з моста —
Рэчка па калена.

Я улетку на суседку
Праз акно дзіўлюся.
А пры сведках да суседкі
Падыйсці баюся.

Колькі можна так бязбожна
Ставіцца да шлюбу?
Ў хаце больш няма багацця
За жонку-галубу.

Еду ўсваты нежанаты
Блізка, праз дарогу.
Мо суседка жонкай-кветкай
Будзе, дзякуй Богу.

На вяселлі пры пахмеллі
Усёй вёскай скокнем.
Полечку і кракавяка
З форсам, аж узмокнем.

## Без дазволу

Не спытаўшыся майго дазволу,
І, не зазірнуўшы мне у вочы,
Безупынку гнулі мяне долу
Год за годам і за днямі ночы.

Без дазволу, без канца, без меры,
У часы будзённыя і ў святы,
Лезла праз зачыненыя дзверы,
Ціснулася гора ў маю хату.

Ой, як хістка і непрадказальна,
Бездань перашкод прайсці па кладцы.
Я ў святле надзеі ратавальнай
Без дазволу буду жыць, змагацца.

## Вялікі свет – і гора не малое

Я акраплю Акрапаль захапленнем
І выкажу надзею Калізею.

Паспачываю шчыра Нотр-Даму,
Ў Пампеі прынясу пачуццяў гаму.

Душу рассею па усіх святынях,
Па Куліковым полі і Хатыні.

Па Піскароўскіх могілках пакутных,
Па лёсах знаных, чутых і не чутых.

Па усіх мемарыялах Вечнай Славы,
Дапамажы мне ў гэтым, Божа Правы,

Гісторыю мне ахапіць складана
І душаў шмат у ёй закатавана.

Вялікі свет — і гора не малое,
Хачу дапяць да кожнага героя.

Мы помнім іх, няхай ім лёгка спіцца,
Ляці і да жывых, душы крупіца.

Няхай з табой набудзе памяць сілу —
І ахіні маіх бацькоў магілу.

## Агонь

Гары, агонь, што ў маім сэрцы ўспыхнуў,
Не патухай, не астывай — гары
Пакуль задумак носьбіт я і рыфмаў,
Жыві, агонь, не згасні без пары.

Ты ў сэрцы у маім падобны цуду,
Гарыш у ім ты — і яно гарыць.
Я творамі цябе сваімі буду
Жывіць, каб не патух — і зноў жывіць.

Калі ж прытоміць нас гадоў аблога
І ў сэрца мне бяды упрэцца клін,
Тады ўжо мы з табой, з дазволу Бога,
Адыдзем назаўсёды на спачын.

## Вядомыя ісціны

Патрэбен слову сэнс,
Без сэнсу слова — гук,
Пазбаўлены душы,
Нібыта рэха.
Без мэты у жыцці,
Жыццё — замкнёны круг,
Пакуты творцам,
Гультаям уцеха.

Жыццё — і путы спраў,
І вольных крыл размах,
Ў ім чалавек залежны
Й незалежны.
А цела, для душы
З народзін — саркафаг
Яе сціскае нават
Свет бязмежны.

## Не тыя вушы

Зрабіў я шмат, а можа й мала,
Ды хтось шапнуў мне з карашэй:
«Дурны ты, як без хлеба сала,
Спяваў ты не для тых вушэй!»

— О не, дасведчаны мой корыш,
Пераканаўча — не і не!
Не ў тыя вушы й ты гуторыш,
Не тое і не для мяне.

# Змены

Як хутка ўсё мяняецца з гадамі —
Характар, знешнасць, вершы, густы, свет.
Не зразумець — кіруюць змены намі
Ці імі мы? Ці разам — след у след?

Час ставіцца да зменаў без здзіўлення,
Бо сам удзел прымае спраўна ў іх.
І кожнае прыходзіць пакаленне
Другім ад папярэднікаў сваіх.

Час, што віхурыць, не заўсёды генны,
А шмат рэвалюцыйнасці нясе.
Карыснае з сабой прыносяць змены
І горшыцца ўсё ў свеце пакрысе.

Карыснае было і будзе з намі,
У новы час пракладвае свой след.
А горшае, па кроплі нас, як камень,
Падточвае і пагаршае свет.

## Выбірай!

Каб Бог сказаў мне: — Выбірай,
Што пажадаеш: ці каханне,
Ці пекла чорнае, ці рай.
Я адказаў бы без вагання:

— Каханне! Назаўжды яго
Я блаславенна выбіраю!
Здзівіўся б, пэўна, Бог: — Ого!
Чаму ты выбраў пекла з раем?

## Запавет бацькоў

Я запавет бацькоў бярог —
Ўзрасці сумленным, слынным.
Я ўсім, што меў, усім, чым мог,
Разлічваўся з айчынай.

Я аддаваў зямлі, дзе рос,
Ўсе, без ашчады, сілы.
Ці не таму Ісус Хрыстос
Падараваў мне крылы.

Яны — зеніт жыцця майго
Парнас майго натхнення.
Я на свой лёс гляджу з яго
З удзячным захапленнем.

Тут, толькі тут — і больш нідзе
Я з Музай мог спаткацца,
Якая па жыцці вядзе —
Настаўніца, дарадца.

Дык вось чаму мяне зямля
Узгадавала годна,
Каб я з чужых краёў, здаля,
Вяртаўся ў кут свой родны.

Каб здзейсніў продкаў запавет,
Згараючы ў натхненні,
Пасля сябе пакінуў след
Для новых пакаленняў.

## Акіян

Акіян то ўздымаецца ўвесь на дыбы,
То атуліцца безабароннай самотай.
То над ім сінь нябёсаў, то хмараў клубы —
Акіян мне здаецца жывою істотай.

Ну й бываюць шалёныя ночы і дні,
Налятаюць грымотныя шквалы-навалы.
Ах, як хвалям балюча з разгону грудзьмі
Біцца, біцца і біцца аб вострыя скалы.

Акіяну належыць магутнасці трон,
Але ўсё-такі блякнуць яго ўсе экстрымы —
Як бы не распінаўся пагрозліва ён,
Не заглушыць ніколі ён боль Хірасімы.

## Душы кароста

Я столькі напісаў... Каму? Навошта?
Нячытаныя ўсе тамы мае.
Але ж паэзія — душы кароста,
Ні спаць, ні жыць спакойна не дае.

І ведаю — ніхто не прачытае
Ні верша, аніводнага радка.
І ўсё ж душа старонкі дзён лістае
І думак не спыняецца рака.

Мне жыць абрыдла, я невыпадкова
Бліжэй душой да тых, хто аджылі.
І толькі Богам дадзенае слова
Мяне пакуль трымае на зямлі.

## Кот і мыш

Што ж, настае мой час расплаты,
А спадзявалася — міне.
З мінулага падзеі, даты,
Усё ж падсцераглі мяне.

Падцікавалі перад ноччу
Грахі, памылкі розных год.
А мне здавалася — праскочу,
Ды не! Я — мыш, а час, ён — кот.

А дзе вы бачылі ці чулі,
Каб адката ды збегла мыш?..
Вастрэй адчуў — жыццё не гулі,
Напрыканцы якога — крыж.

## За далягляд

Колькі жыву, душой не заставаўся дома,
Я вандраваў па творах — і сваіх, і не.
Ляжаць, пляваць у столь, мне гэта не знаёма,
А вось за далягляд ляцець прыемна мне.

Зірну за далягляд і бачу — вабіць новы.
І новы за спіной, далей лячу адтуль.
Як хочацца адкрыць краіну роднай мовы —
І ёсць яна, і не — і ёсць, і не... пакуль.

Над роднаю зямлёй нясу ў душы надзею,
Акрыленасць мая ад роднае зямлі.
Тваё я, Беларусь, як сейбіт, словы сею,
Эх, трапілі б яны у сэрцы й прараслі.

# Крэслю дні

Патух, памёр не дзень, а гэта я
Яшчэ на дзень жыццё закрэсліў смела.
Цяпер дарога па жыцці мая
Яшчэ на адзін дзень пакарацела.

Яшчэ раз заўтра вынік падвяду,
Закрэсліўшы мінулы дзень чарговы.
Яшчэ на дзень сябе я абкраду,
Чакаючы някрэслены дзень новы.

О, колькі дзён прайшло з далечыні
Да сёння, аж да фінішнага краю.
Вось так я кожны вечар крэслю дні,
На дзень адзін штодзённа паміраю.

## Прыпеўкі

А дзе тая сцежачка,
Юнацкія дзяనькі?
А дзе тая дзежачка
Й салёныя рыжкі?

А юнацтва мелася,
Ды пара прайшла.
А рыжочкі з’еліся,
Сцяжынка зарасла.

А дзе тая дзеўчына,
А дзе хлопец той?
Ён у фрэнч выстрэнчаны,
Дзеўка пад фатой.

Эх, рыжкі — вясельная
Закусь, лепш няма.
Эх, жыццё сямейнае —
Шчасце задарма.

Ўсё з тае сцяжыначкі
Пачалося ў іх.
Зоркі-залаціначкі
Ў небе мірг ды мірг.

На пытанні простыя
Просты і адказ.
Прыпеўкі дзівосныя
Будуць і пра нас.

## Два берагі

Я Богам праведным
Спаўна адораны,
З маленства ў сёння йшоў
Праз маладосць.
Мной многа здзейснена,
І шмат мной створана,
Ды больш не зроблена яшчэ,
Чым ёсць.

Не напісáных іх,
Слоў шматгалосіца,
Сюжэтаў, вобразаў,
Задум — букет.
Ў душы не месцяцца,
На волю просяцца,
Да сэрцаў крыленых,
У творчы свет.

Два берагі душы —
І да каторага
Па моры творчасці
Найперш плысці?
І тое важна мне,
І тое дорага,
Яны галоўныя
Ў маім жыцці.

## Дзіва і не дзіва

На цёплы дзень дыхнула халадком,
Няўжо так рана восені пагрозы?
Разліўся каля рэчкі малаком
Туман, глынуўшы на ўзбярэжжы лозы.

Не раз я бачыў на сваім вяку
Такую з’яву — дзіва і не дзіва.
Ў тумане я, як муха ў малаку,
Хутчэй з яго караскаюся, жыва.

Я крокі павялічваю штораз
І дадаю сваёй хадзе я руху,
Бо сонца вып’е «малако» праз час,
А раптам возьме й вып’е разам з мухай.

## Во – чалавек!

Няспынна крочыць век за векам
І цесна ў свеце ад падзей.
Я так хачу быць чалавекам
Ў вачах людзей.

Баюся, каб у твар ніхто мне
Не кінуў брыдкае: — «Гультай!»
Таму і працаваў нястомна,
Бяры — чытай.

І не хачу, каб у спіну мне
Хтось кінуў колкае: — «Дзялок!»
Я не трыбунна і нятлумна
Пісаў, як мог.

Між меркаванняў, перасудаў,
Паміж людзей пражыў свой век.
Ад іх пачуць я рады буду:
«Во — чалавек!»

## Не ставяць па каню свячу

Жыццю я болей аддаваў, чым браў
І ўсё-ткі менш, чым даць мог — вінаваты.
У маладосці больш забаў, чым спраў,
Адсюль і дызбаланс, і часу страты.

Гарбатасць набылі б гады мае,
Каб праца, праца. без прасвету, цугам,
Бо толькі конь ўсе сілы аддае,
Каб капыты адкінуць побач з плугам.

Ніхто не ставіць па каню свячу,
Калі ж кульнуся я, па мне паставяць.
Шмат сіл аддаў жыццю, больш не хачу,
Мне ж трэба па сабе памінкі справіць.

## Застылы час

Тут, дзе ўпаў калісьці жолуд,
Сустракае ў нашы дні
Кожнага магутны волат,
Крылы голля ў вышыні.

Колькі ж, дуб, табе гадочкаў?
Колькі, дружа, за вякі
Напладзіў сыноў і дочкаў —
Вунь яны, на ўсе бакі.

У вышынях хмарачосных
Не замарнаваў гады —
Праз вятры, праз птушак розных
Ты рассейваў жалуды.

І праз іх працяг твой будзе
Сёння, заўтра й пасля нас.
Толькі б паважалі людзі
У табе застылы час.

## Вяроўка і мыла

Я сёння, як той селянін пры сяўбе,
Ён сонейку рады й не рады.
На першым суку я б павесіў сябе
За вершы, ў якіх мала праўды.

І ўсё ж я трымаю пілу каля рук —
Ледзь шыя вяроўку, адчуе,
Адразу я хуценька зрэжу той сук,
Бо праўда у вершах пануе.

Няпраўда — брыда, толькі праўда ў цане,
Мне праўда душу акрыліла.
І ўсё ж, калі вершы пішу, ля мяне
Заўсёды вяроўка і мыла.

## Глагольныя рыфмы

Жыву і сам з сябе здзіўляюся,
Што не магу ніяк спыніцца,
Хаця усё часцей стамляюся
І ўсё часцей юнацтва сніцца.

І лета холадам адужана,
І дні ўсё караценоць, таюць,
І сонца восенню астуджана,
І промні ў вырай адлятаюць.

А недзе ўжо зіма варушыцца
І справіць белы баль паспее,
І завірухамі раз’юшыцца,
І холадам засвірапее.

________

Глагольнымі буяюць рыфмамі
Паэзіі адвечнай грады,
Пустымі, не заўжды карыснымі —
Ды, хто што мае, таму й рады.

## Пухам зямелька

Сакалоў, Шапавалаў, Невядомы салдат…
У Яну́шкавічах іх магіла.
З сорак першага году, ля дарогі, між хат,
Беларусі зямля прытуліла.

Вось і звесткі усе. Хто яны і адкуль?
Жорсткі бой іх загінуць прымусіў.
Тут яны ад варожых бязлітасных куль
Ратавалі зямлю Беларусі.

Ах, як доўга матулі чакалі сыноў,
Хоць бы звестачку, дзе пахаваны.
Тут, на нашай зямлі пралілася іх кроў,
Тут сустрэлі смяротныя раны.

Тут, матулі, ляжаць вашых сэрцаў сыны,
Тут яны… але й вы ўжо ў магілах.
Пухам будзь вам зямелька, героі вайны,
Памяць сэрцаў удзячных і шчырых.

## Жніво

Пасевы зжаў ад краю і да краю,
Ўсё за сабой прыбраў на ўсе бакі.
Цяпер жніво старанна завяршаю,
Апошнія збіраю каласкі.

Мной колісь гэта поле узарана,
На ім жыцця не шкадаваў свайго.
Я з маладосці засяваў старанна,
Я падсяваў ўсё жыццё яго.

Жыццёвы шлях прамы няўхільна верне
З-пад неба светлых мар у бок зімы.
Так, як у сховішча ссыпаюць зерне,
Я творы занітоўваў у тамы.

Ёсць ураджай, і не благі даволі,
Лепш, каб аб ім усё ж сказаў не я.
Шмат поту тут майго, на зжатым полі,
Па сутнасці — уся душа мая.

## Атруты зелле

А мана — салодкая спачатку,
Лёгка выпіваецца, да дна.
А як толькі вып’ем праўду-матку,
Нас падванітоўвае мана.

Кожны з нас даверлівы, на дзіва,
Апячэмся — потым зноў з нуля.
З асалодай п’ём напой хлуслівы,
Расцвярэзіць праўда нас пасля.

О,  гэта мана, атруты зелле —
Пі, расперажыся, задарма.
Раз за разам: выпіўка — пахмелле,
Розум ёсць, то розуму няма.

## Нявечны

З-за далечы ледзь чутны звон,
Як засцярога, далятае.
Капеж маіх начэй і дзён —
Кап-кап — і тае, тае, тае.

А пільны месяц з вышыні
Няўсыпна за парадкам сочыць.
Лічыць яму прыемна дні —
Дні, ператвораныя ў ночы.

Пад месяцам і я ў начы,
Не спіць мая душа жывая.
А час — лічы ці не лічы,
Ва ўсіх няспынна убывае.

Не дзецца нам ад год слаты
Нідзе — і гэта факт бясспрэчны.
Я, месяц-дружа, чуў, што й ты
У летапісу год — нявечны.

## Ці знойдзецца дзівак?

Як мне шкада вас, будучыя дні,
Вас Бог жыццю падорыць, як на блюдзе,
І сонейка ў блакітнай вышыні —
Вы будзеце, мяне ужо не будзе.

І будуць ночы сумаваць па мне,
Бо я ў жыцці так мала спаў начамі.
І веру я, ніколі не міне
Ўзаемаповязь цёплая між намі.

Я кожнай ноччу больш пісаў, чым днём,
Шмат думак перадумаў кожнай ноччу.
Я ў сэрцы, палкім з гэткім жа агнём,
Усё жыццё ад дня да ночы крочыў.

І спадзяюся, што душа мая
Усё ж вас не пакіне, з ласкі Бога.
Ці знойдзецца яшчэ дзівак, як я,
Каб вас любіў больш, чым сябе самога?

## Хвалююць

Як чутка, як нябачны госць,
Сярод гадоў, падзей і люду,
Ці быў я ўвогуле? Ці ёсць?
А калі так, тым больш — ці буду?

Пытанні гэтыя ўвесь час
Хвалююць і невыпадкова.
Я не магу пачуць адказ
Хоць на адно з іх прыжыццёва.

І ўсё ж адкажуць мне гады,
Тады, калі я «заначую».
Ды што мне з гэтага «тады»?
Я ўжо нічога не пачую.

Маё ўжо сэрца не кране
Адвечнае — я быў ці не?

## У чыстым полі

Не чыста ў чыстым полі, як ніколі,
Ёсць ветру, дзе апробваць сваю злосць.
Я не шукаю ветру ў чыстым полі —
Ды што яго шукаць? Ён тут, ён ёсць.

З узрушанай душою, поўнай мараў,
З надзеяй сустракаю дзень за днём.
Вунь, бліскавіцы ўспыхваюць між хмараў
І захад, вунь, высвечвае агнём.

Прастора тут, для навальніц раздолле,
«Наломяць дроў», толькі прычыну дай.
Не страціла б ты толькі здольнасць, поле,
Вырошчваць тут жытнёвы ураджай.

*22.VIII.2020*

## Драгоценный сосуд

Многообразен мир и сложен,
Он далеко не идеал.
В огромном мире я ничтожен
И до обидного в нём мал.

В нём трудно жить и интересно
И он подобен миражу.
Но почему же в нём мне тесно
И выхода не нахожу?

Мир — это лица, лица, лица,
Ни на кого я не похож.
Я в нём мечусь, подобно птице,
В просторной пусть, но клетке всё ж.

Я знаю, где его начало,
Я вижу, где конец его.
О как же в нём простору мало
Для безграничья моего.

Без скромной ложности я должен
Сказать, достоинство храня —
Не я, скорее, мир ничтожен,
Раз он вмещается в меня.

Он безраздельно в моей власти,
Живу, в душе его неся.
Во мне кипят его все страсти,
И беды все, и радость вся.

Мир — пафосная эпопея,
В добре он ровен, в злобе крут.
Мир бережно несу в себе я,
Как драгоценнейший сосуд.

## Выбрать не легко

Я знаю это, знаете ли вы,
Как вытесняют дурь из головы,
Разумные, спасительные мысли?
Они важны в метущейся судьбе,
Процесс сей происходит в голове,
Иначе бы мы вряд ли в люди вышли.

Виновница лихих житейских бурь,
Не дремлет искусительница дурь,
Она наши мозги обетовала.
Дурь наша — многих дел локомотив,
В дела пороки наши воплотив,
Преумножает их, хоть их не мало.

Спасибо, здравомыслия форпост,
Над пропастью пороков, главный мост
С которого срываемся порою.
Мост этот — разум, Господом храним,
Но я, то на мосту, то я под ним,
Одно мне выбрать не легко — не скрою.

Вот и сейчас — бутылка на столе,
Лететь мне после на одном крыле,
А может влезть на «мост», остановиться?
Вот і решаю, пить или не пить —
Никто не может за меня решить,
Я — червь ползущий или в небе птица.

## Помогите!

Мне трудно разобраться — чтó есть я,
Молчит судья всегда бесстрастный — время,
Безмолвствует и серость бытия,
А я несу неведения бремя.

Порою «я» — обуза всех обуз
(Вопрос это больной и очень личен)
И тяжек имя собственного груз,
Особенно когда преувеличен.

И, исходя из «груза» своего,
Карабкаемся нá гору талантов.
И, не неся, по сути, ничего,
Вышагиваем поступью Атланта.

Похвально из неведения тьмы
Стремиться к просвящения элите.
Как трудно разобраться — чтó есть мы,
Кто в этом понимает — помогите!

## Полет

Порою видим мы не дальше носа,
Как будто нам мешает жизни клеть.
Во сне увидел на краю утеса
Себя — о как же хочется взлететь!

Бескрылье наше — груз для сердца тяжкий,
Но я стою вверху, восторг в груди.
А подо мной какие-то букашки,
А может люди, разберись поди.

Что ж я застыл? Я должен, должен, должен
Над всею этой серостью взлететь.
Ведь даже меч, освободясь от ножен,
Сверкнув, докажет, что он сталь, не медь.

И я, расправив руки, оттолкнулся,
Уподобясь свободному орлу.
Но, лишь взлетев, я с грохотом проснулся,
Расставив руки, лёжа на полу.

Мне на полу подумалось, не кстати,
И вы сейчас подумали о том:
Рожденный ползать, падает с кровати,
Как только возомнит себя орлом.

## Преклоню колени

Я юность милую без счета помяну,
К ней сердца взор тоскующий прикован.
Оно не покидает прежних дней весну —
Кто ж первоцветом не был очарован?

С любовью к молодости зрелой преклоню
Всё помнящей, души моей колена.
Хоть мысленно вернусь к несгасшему огню,
Который греет душу неизменно.

Тебя приветствую я, жизни перевал,
Я восходил, от высоты пьянея.
Я взрослым стал, взойдя, я духом возмужал.
Ещё не зная то, что спуск сложнее.

Я на вершине был, я этим горд и рад,
Спускаюсь вниз, обрывы огибая.
Но драм и бед, и лет срывался камнепад,
То раня, то, порою, с ног сшибая.

И вот подножие, лежит почти плато,
Спуск не крутой, но вниз уводит всё же.
Здесь легче двигаться но меньше сил зато,
А что там дальше? Впереди? О Боже!

Там пропасть черная бездонная видна,
А спуск влечёт — всё ниже, ниже, ниже,
Какая-то есть сила над нами, и она
Процессами вокруг и нами движет.

Я пропасть чувствую, бездонность-глубину,
В ней щупальцами шевелятся тени…
Я юность милую ещё раз помяну,
Пред всем, что было, преклоню колени.

## Так и запишем

Пусть сбудется все,
Что задумал Всевышний,
Нам не отменить то
И не заменить.
И если сочтет он,
Что в жизни я лишний,
Покорно приму это —
Так тому быть.

Мне думалось так,
Когда был еще молод,
А годы всё шли,
И не счесть лет и зим.
А жизнь всё со мной,
Я от ней не отколот —
Какой же я лишний,
Коль Богом храним?

Да здравствует жизнь наша!
Так и запишем.
Она добродетелью
Озарена.
Рожденный однажды,
Не может быть лишним,
И каждая жизнь —
Уникальна, ценна.

## Наперекор судьбе

Я там, где побывать мне не дано,
Куда судьба моя и обстоятельства
Меня не пустят по гроб жизни, но
Я там в мечтах бываю обязательно.

Иначе я бы прозябал без крыл,
От мира невозможным отгороженный,
И мой Пегас меня бы не носил
Дорогой звездной, только мной проложенной.

И если за мечтой мечта парит,
И следом сам летишь безотлагательно,
Душе открытой целый мир открыт,
Наперекор судьбе и обстоятельствам.

## Свет и тени

Спасибо вам, стихотворенья,
Поэмы, повести, рассказы,
Спасибо, сказки, басен звенья
И юмора смешные фразы.

Мои вы посещали ночи,
Входили днем, хотя и реже
Вся жизнь моя кипит, клокочет,
И душу по живому режет.

Меня одаривали силой,
Как воина на поле брани.
Свершали мы смешенье стилей,
Варьировали слов звучанье.

Достичь стремились высшей ноты,
Вникали сообща во всё мы.
Мы были вне простой работы,
Священнодействием влекомы.

Теперь своим считаю долгом
Стать перед вами на колени.
Я вас покину — и надолго,
Увы, увы, есть свет и тени.

## Души увечья

«О если б дать забвение живым!» —
Да, Байрон, да! И этого хочу я!
Оплакиваю всех, но безразлично им,
От нас ушедшим, в вечности ночуя.

Без близких, без родных мне свет не мил,
И память всё вокруг меня безлюдит.
Их к жизни не вернул, свою же сократил,
Жить продолжая тем, чего не будет.

Все кровные мои — моя родня,
Ушли и с ними всё, что мной любимо.
И древо роду вдруг упало на меня.
Всей тяжестью — и жить невыносимо.

Из прошлого уйти так и не смог,
Уж слишком тяжелы души увечья.
И так же, как и жил, я подвожу итог,
Нет, не смирюсь с забвением и впредь я.

## Победитель и побежденный

К черте последней подхожу с молитвой,
Как будто предстоит последний бой.
Хотя вся жизнь моя — бескомпромисс и битва
Со всем, чем жизнь богата, и с собой.

Как я и с чем боролся — Бог ценитель,
Жизнь — это и затишье, и аврал.
Я — долгожитель, значит победитель,
Мой финиш близок, значит проиграл.

Мы, в жизнь вступив, и до конца — в дороге,
Идя по жизни, побеждать должны.
Чего б мы не достигли, но в итоге,
К прощанью подойдя, побеждены.

## Растреснутое зеркало

Спустились сумерки и деспотом
Из помещенья гонят свет.
И только в зеркале растреснутом,
Как будто я, как будто нет.

Две половины отражения,
По полменя — ну и дурдом.
Одна из них — я, без сомнения,
Другая… Узнаю с трудом.

Две половины одноглазые,
И справа я, и слева я.
Их в темноте узнал не сразу я —
Нога моя, рука моя.

Одна умна — не удивительно,
В глазу есть мысли глубина.
А вот другая — поразительно,
Глупа скорее, чем умна.

Ну и растреснутое зеркало!
В сердцах воскликнул я, шутя.
Так отраженье исковеркало,
Бездарно разделив… хотя…

Не так уж далеко от истины
Моё отображенье здесь,
Ведь зеркала точны и искренны.
И в них всегда — что есть, то есть.

А в жизни был ли слишком ровный я
В своих поступках и делах?
Да, я творил дела духовные,
Творил за совесть, не за страх.

Но мной и глупостей натворено
Не мало среди добрых дел.
Я жил светло, я жил зашорено,
В две соли помакнуть успел.

Я был и рыцарем, и рекрутом,
Чёрно-бела судьба моя,
Не только в зеркале растреснутом —
И жил неоднородно я.

## Душа – портал

Душа — портал, через который
Мы покидаем колыбель,
Отбросив разговоры, споры,
Летим за тридевять земель.

И хоть не созданы ракеты,
Амбициозней наших снов,
Хоть не разгаданы секреты
Полета сказочных ковров,

Летим душой в такие выси,
В высоты высшей высоты,
Смелее самых дерзких миссий
И дерзновеннее мечты.

Мы на простор галактик вышли,
Подняв вселенной целину.
Душа — портал, пришельцы-мысли
Нас держат в творческом плену.

## Всё повторяется

Вокруг всё неизменно, вечно,
Всё то же небо и земля.
Березы в платьях подвенечных
И в строгих фраках тополя.

И клен, как будто он ни разу
С рожденья не менял пальто.
Но что-то непривычно глазу
Средь этой вечности. Но что?

Ничуть не отклонясь от нормы,
Природы сказочная быль
Меняет и цвета, и формы,
И даже моду, даже стиль.

Мудра и праведна природа,
Не статика, не тишь и гладь,
Ведь каждый раз, с началом года,
Всё повторяется опять.

## Сдаюсь!

Сдаюсь на милость тех, кто мил,
На милость, не на милостыню.
Я к милым людям не остыл,
К немилым постепенно стыну.

На милых, добрых, есть лимит,
Зато в избытке буки-злюки.
Жизнь доброту, как дефицит,
Дает так мало в одни руки.

О как звучит: «Мил человек!»
Но как же редко слышим это.
А мил ли двадцать первый век?
Вопрос остался без ответа.

Но век, как Феникс из золы,
Восстал бы, принял облик новый,
Когда бы все были милы
Иль ими стать были готовы.

Дожить бы до такой поры,
Когда б «вопрос-ответ» не мучил,
Чтоб были все ко всем добры,
И я, возможно, стал бы лучше.

## И мы

Горит закат над лесом, но не греет,
И лес не возгорается под ним,
Что у природы может быть мудрее,
Чем удивлять нас зрелищем своим?

А мир чудес, что затаился в лете!
Черничный бал вокруг боровика!
Или весной мозаика соцветий!
Или зимой хрустальная река!

А осень! Это сказочное диво
Весны не хуже, лета и зимы.
Волшебно у природы все, красиво —
Вода и небо, и земля!
И мы!

## Не оценишь балом

О человек!
Велик ты и ничтожен.
Но что из жизни ты сумел извлечь?
Ты в юности, как меч сверкнул из ножен,
А старость — тот же, только ржавый меч.

А что меж этих вех свершил, владея
Всё тем же, жизни вверенным мечом?
Влачился ль, самолюбие лелея?
Иль спас кого подставленным плечом?

Каким богам молился, встретив бурю?
Или себе лишь верил в этот миг?
На что решился, видя амбразуру?
Закрыть собою иль послать других?

Твое величье в выборе решенья
Бесспорного, противясь воли злой,
Когда одно, всего одно мгновенье
Воздаст тебе хвалой или хулой.

Ничтожество твое, когда несмело
Ты взвешивал, колеблясь, да и нет,
А чья-то жизнь на волоске висела,
А ты всё медлил, не найдя ответ.

Жизнь не экзамен, не оценишь балом.
О человек!
В тебе и тишь, и прыть.
Твое величье может быть и в малом,
Но и в большом ничтожным можно быть.

## Прорастут мечты

Я припаду к стопам твоим, природа,
К твоим стопам, земля, я припаду
В момент последний моего ухода —
И где бы не был я — в раю, в аду,

И там я, пребывая в новой роли,
Оставив здесь предуходящий страх,
Не перестану славить вас, дотоле,
Пока совсем мой не истлеет прах.

Но возвращусь я в этот мир чудесный,
Когда-то прорастут мои мечты —
И расцветут прекрасны, бессловесны,
Весною, мной вскормлённые цветы.

## Чтим и любим

Прошу вас, кто душою тугоухий,
И вас, в чьем сердце почитанья нет,
Не называйте женщину старухой,
Пусть даже ей исполнилось сто лет.

У женщины заложено с рожденья
Ранимость, деликатность, нежность чувств,
В душе непреходящий мир весенний —
Без этого всего мир станет пуст.

Для женщин «это слово» хуже брани,
Кощунственно в преклонные года.
Порой, в последний час, их этим ранив,
Из жизни провожаем навсегда.

О, не стареет, нет, душа живая,
Не делается возраста рабом.
Мы, женщинами женщин называя,
Их чтим и любим в возрасте любом.

## Все свои

Не простой вопрос гнетет и мучит,
В коем миллионы «почему».
Что же человечество научит
Наконец-то разуму-уму?

Почему всегда, вперед идущий,
Напролом, нахрапом, на «ура»,
Устремляет взгляд лишь в день грядущий,
Не подумав глянуть во вчера?

Лозунг человечества: «А нам ли
В прошлое глядеть, идя вперед?»
А ведь в нашем прошлом — наши грабли,
Всех ошибок постоянный код.

Мыслит род людской без изменений,
Безоглядно — всё в пути, в пути,
Через жертвы на полях сражений,
Через чью-то глупость во плоти.

Зреет человечество не шибко,
Не съезжая с прежней колеи.
Поучиться б на чужих ошибках,
Но чужих ведь нету — все свои.

## Узы

Нет, не творческие узы,
К сожаленью, не они,
Расплодились, как медузы,
В оные и наши дни.

Липкие, как паутина,
Наглые, словно прибой,
И, как лампа Алладина,
Могут всё между собой.

Головной страшнее боли
И гвоздя, что на шоссе…
Ну так что? Назвать их что ли?
Нет, ведь мы их знаем все.

## Летописи

*...Не каждый подвиг находил певца.*

Важнее летописей нету ничего,
Они, фильтрующее время, сито.
И в памяти писанья своего
Хранят всё то, что не должно забыто.

О летописи! В вас живут века.
Но между ними, в памяти провалы,
К нам не дойдя, ушло наверняка
Событий много и имён не мало.

Без летописей много ль знали б мы,
Ведь устная недолговечна память.
То знали просвещенные умы,
Не дав нам в никуда совместно кануть.

Событий вал, это не води гладь,
Трудились летописцы аккуратно.
Нельзя ведь необъятное объять,
Но в летописях память необъятна.

## Шум дождя

Шум дождя, висящий за окном,
Умиротворяет и тревожит.
И, витая в воздухе ночном,
Что-то ободряет, что-то гложет.

И стучат по сонному стеклу
Капли, как звенящие мгновенья,
И дробят, дробят ночную мглу,
Как таблица школьная деленья.

Что ж я затворился на замок,
Ночь делю, как первоклассник в школе?
Кажется, что дождь и сам промок,
Поддержать его мне, выйти что ли?

## Приговор и оправдание

Писал, как жил я, до сих пор
И вдруг внезапно осенило:
Поэзия — мой приговор
И в этом скрыта моя сила.

И нет уже назад пути,
Ни колебаний, ни привала.
Чтоб в мире слов себя найти,
Иным и целой жизни мало.

Уж что, а с этим я знаком,
Я — в поиске, в дороге, в муках.
Лавровым будет мне венком
Мой приговор, его порука.

Поэзия идти должна
Не звонким шагом по паркету,
А там, где зреет тишина,
Звенящая на всю планету.

Из этой тишины растут
Бесценные, как плод утробный,
Ростки возвышенных минут,
Что на столетия подобны.

---

Мой приговор — мне в назиданье,
Он тяжкий крест, а не парадность…
Поэзия как оправданье?
Нет! Не хочу! Её в нём слабость.

# Ошибка

Войдя в хоромы, бдительность храни
И совладай со сдержанным испугом,
И угадать попробуй, чьи они,
И нужен ли пришелец из лачуги.

Как примут здесь такого, не секрет,
Как тех, кто для хоромов беспородны,
Навстречу не воскликнут: — Сколько лет!
А холодно процедят: — Что угодно?

Для них ты, словно черный луч из тьмы,
Как некролог на праздничных их датах.
Здесь остро ощутишь, насколько мы
Разделены на бедных и богатых.

Пускай они живут в своем дворце,
Защищены, как переломы в гипсе.
Ты им скажи с ухмылкой на лице —
Я туалет искал, неушто я ошибся?

## Ответь на прощанье

Во взгляд твоем — мирозданье,
Он дарит то жар, то озноб.
Тебя, как Святое Писанье,
Читать надо вглубь, не взахлёб.

Какая невинная внешность,
Самой благодетели верх!
В тебе я искал непогрешность,
А влип с потрохами во грех.

Хотя бы ответь на прощанье:
Обыденность ты иль сюрприз?
Я — жертва? А ты? Наказанье?
Или же судьбы моей приз?

## Нет такой брони

Собраний неприятье, как недуг,
Сообщество сограждан — не семья.
Одно спасенье от суе́т вокруг,
Зарыться в кокон собственного я.

Но и сюда, в уединенье чувств,
Рождающее мысли в тишине,
Мир суеты, который мне и чужд,
Вползает информацией извне.

И бьет по самым чувственным местам,
Как негодяй, из-за угла, из тьмы
Разнополярные — я здесь, он там,
Живем, взаимосвязанные мы.

И редкие мне выпадают дни
Для главного занятья своего.
И в мире еще нет такой брони,
Чтоб полностью укрыться от него.

## Две жизни

Под хлипы памяти встревоженной,
Борясь с бессонницей, уснул.
И сном от яви отгороженный,
Как в параллельный мир шагнул.

Но слово «как» здесь неуместное,
Во сне живем в другом миру,
Нас кто-то вводит в бестелесную,
Словно в немом кино, игру.

Порою, прошлое копируя,
Или же невидаль даря,
Волнует, экспериментирует,
Над здравым смыслом воспаря.

Сны, очень личные, келейные —
Таинственное рандеву.
И мы две жизни параллельные
Живем во сне и наяву.

## Событий вал

А вал неудержных событий
Вовек не превратится в штиль.
Тех, кто бежал в уют укрытий,
Из памяти стирает в пыль.

Легко бить по стеклу железом,
Пусть даже вялою рукой.
А, встретив вал, стать волнорезом,
Не всем под силу риск такой.

Отбросив пустяков побочность,
В разы взвинтив борьбы накал,
Жизнь проверяет нас на прочность,
Кто мы — стекло или металл?
И страшен ли событий вал?

Проверит — верить иль не верить,
Надежен ли или же пуст.
В толпе такое не проверить
Среди советующих уст.

А с валом, мчащимся навстречу,
Поди — сойдись, подставив грудь.
Возможно, и восчеловечат
Поступок сей когда-нибудь.

# Проблем не мало

Что ни зима — зимы зимнее
Когда-то резво приходила.
И холода, морозы с нею,
Метелей вьюжило кадило.

Теперь зима придет и ляжет,
Как изможденная старуха,
Не шелохнет и пальцем даже.
А снег? Ни слуху и ни духу.

Что ни зима — на снег бесплодней.
И в нас самих проблем не мало,
Заглянем в души — в них сегодня
Наоборот похолодало.

## Импровизация

Медведь изобразить не может грацию,
Хоть курс балета преподай ему.
А тугодум постичь импровизацию,
Доступную лишь острому уму.

Она — сестра родная вдохновения
И слов, дивно окрашенных полна.
Не искажая сути изложения,
Привносит неожиданность она.

И образам живым тесно́ становится
В миру импровизированных сцен.
Она, словно мужей чужих, любовница,
Берёт любого слушателя в плен.

## Одной-другой ногой

Как время всё меняет!
Ведь даже, вон, цветы,
Печально отцветая,
Лишились красоты.

Пожухли и подвяли,
Головки наклоня.
Вы помните? Едва ли
Расцветшего меня.

Я был, как куст сирени,
В бушующем цвету.
Я был, как день весенний,
Рождающий мечту.

Я был… О это был мне!
Какое был! Я есть!
Теперь, правда, предзимне
Высматриваю весь.

Цвету и пахну в грёзах,
В мечте одной ногой
И жаль, что я в морозах
Ногой стою другой.

## «Нетрезвый» лес

Растрёпан ветром лес и взвинчен,
Вспугнув с вершин дерев ворон,
Не зная, что фотогеничен
И в непричёсанности он.

Качаясь, как слегка нетрезвый,
Как волны марев вдалеке,
Он более живой и резвый,
Чем в постоянном столбняке.

Он так расстроился, наивный,
Своей растрёпанностью, но
Всё ведь живое импульсивно,
Всё рьяно в жизнь устремлено.

И даже эти свето-тени,
Сплетенные, как рыбья сеть,
Упавшие здесь на колени,
Мечтают, помолясь, взлететь.

## Без никаких сомнений

Не счесть, который раз, который год,
(О, не всегда удачливые ведь мы)
Я всё ищу в своих сомненья брод,
Преодолеть бы их, преодолеть бы.

Я в них вхожу, не доставая дна,
А что, если совсем они бездонны?
Я отступаю — вот тебе и на,
Я — посрамленный, но не обреченный.

Вопрос сомнений — разрешим и прост,
Закрыт он будет вскоре и без прений —
Не сомневаясь, я построю мост,
Пройду по нём без никаких сомнений.

## Полно сюрпризов

По еле видимой дорожке
Я в лес вошел — дай, друже, лапу!
О, белый гриб на белой ножке,
Отдел коричневую шляпу!

Так рано! Я же по привычке,
В июне, в это время года,
Иду в леса лишь по лисички —
Сюрпризит матушка-природа.

Приветствую твои старанья,
Сгибаю пред тобой колени.
Я сам был молодой да ранний,
Теперь, как поздний гриб осенний.

Я принял лет «осенних» вызов,
Да, я не тот уже — и что же?
И у меня полно сюрпризов
И видимых, и скрытых тоже.

## Попутчики

Я шел навстречу ветру, взмыленный
И, изможденный, сел без сил.
Но ветер тоже обессиленный,
Взвыл, как со всей округи филины,
И пал к моим ногам, застыл.

Вот так и почивали оба мы,
Но я, вдохнув свободу в грудь,
Овражинами и колдобами
Продолжил свой нелегкий путь.

Вдруг ощутил волну дыхания
Своей вспотевшею спиной.
То ветер проявил внимание,
Не дул навстречу мне, как ранее,
А стал теперь попутчик мой.

## Одиночество

Фамилия моя и имя есть, и отчество,
Вся эта троица — всегда мои друзья.
Избрав поэзию, избрал я одиночество,
Вернее, двое нас — она и я.

Не замечал довольно долго этого
В миру, еще бесплодья своего,
Вкусив плодá, как я считал, запретного,
Я всё и вся отверг, кроме него.

Всё изменилось круто, до неверия,
Что существует мир в миру земли,
Что есть такая тонкая материя,
Без ней мы — голь, нагие короли.

И, поглощенный этим наваждением,
Зажегся я неведомым огнем.
В поэзию, как в Храм, с благоговением
Вошел, не выйдя — и остался в нём.

Великое сбылось судьбы пророчество:
Для Слова, вся вселенная — эфир.
О, как ценю свое я одиночество,
Вокруг меня в котором — целый мир.

## Мужской подвиг

Не мало сказать, по прошествии времени,
Можно о нем,
Он доблестью личной крещен,
И мечом, и огнем.

Он мчался вперед,
Находясь у врага на спине.
В любом он сражении был
Впереди на коне.

Он твердостью рук отличался
И зоркостью глаз,
Друзей закрывал от меча
Он собою не раз.

И хоть он во всех испытаньях
Был дерзок и смел,
Но в спаленку к девушке ночью
Войти не посмел.

Так он что ли трус?
Он что ли лишился всех сил?
Нет! Честью блеснул он,
Он подвиг мужской совершил.

## Незабываемые коти

*Милым котикам*

Как много принесли вы радости,
Но больше принесли страданья,
Когда с холодной беспощадностью
Приходит скорбный час прощанья.

Когда вы, искренности полные,
Любви, что родилась меж нами,
Нас покидаете, безмолвные,
Прощаясь с нами лишь глазами.

Ах годы — птицы быстрокрылые,
Летят, но вы в душе живете,
Разнохарактерные, милые,
Незабываемые коти.

